ГОД VIII СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ № 58
1954 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ



Цудатворны абраз Жыровіцкае Маці Божае

**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VIII. N° 58 Janvier-Février 1954
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI[e]

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1954 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI<sup>e</sup>.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.**
**4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**M. l'Abbé Czerniaŭski François, Michelse 202. LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover.**
**in Goslar,**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2500 фр. — 2 ф. і 10 шыл.

**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:

**R. P. Horosko** Leo, 95, rue de Sèvres, **Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr.** C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz. Sommerwohlenstrasse 1 A.

# З беларускае народнае мудрасьці

Дурны законаў ня зане, ды свае мае (Дурному закон ня пісан).

Дурны пасьпех — людзям на сьмех.

Дурняў усюды не бракуе.

Душа ў чалавеку рагатая, без пары ня выйдзе.

Душы свае на далонь ня выймеш ды не пакажаш.

Едзеш на дзень, бяры хлеба на тыдзень.

Едзеш у дарогу, пакланіся Богу.

Еду ціха — са мной ліха; еду скора — са мной гора.

Еж рыбу, да рыбака ня зьеж.

Еж хлеб з вадою, абы не з бядою.

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»**

**апошнім часам прыслалі:** (Сумы паданы ў францускіх франках) Балтрушэвіч В. 740, Бе-ук М. 1704, Буйвіла Я. 1000, Булыга М. 500, Занковіч М. 500, Елешэвіч П. 600, Калесьнікевіч М. 500, Кукель Ч. 1000, Ліс С. 350, М-на Л. 180, Мяцеліца М. 1000, Мэ-я А. 1000, Пануцэвіч В. 3500, Радзеўскі І. 900, Раманоўскі Я. 500, Савёнак Л. 1750, др. С-к М. 1750, др. Сядура У. 350, Цы-кі Э. 500, а. Ч-кі Ф. 4000, Чар-ка Я. 780, Ш-ут Хв. 370, Ян-ко П. 500, Яцкевіч Д. (група Аўстралія) 3880, Яцкевіч Г. 350.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VIII. СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ № 58


# ГОД МАРЫІ

8-га сьнежня 1854 году папа Пій IX, як найвышэйшы настаўнік у справах веры і абычаяў, абвесьціў усяму сьвету, што Найсьвяцейшая Дзева Марыя ёсьць беззаганна (непарочна) пачатай. Значыць Марыя дзеля яе асаблівае годнасьці і прызначэньня была вольная ад плямаў першароднага граху ад першае хвіліны свайго існаваньня.

Словы Сьвяцейшага Айца прыпячаталі тую праўду, якою жыло хрысьціянства ад зараньня свайго быцьця; яны так-жа раз назаўсёды закончылі разьбежныя разважаньні багасловаў на гэтую тэму.

Тое, што сказаў Найвышэйшы Сьвятар, у хуткім часе было яўна пацьверджана Найсьвяцейшай Дзевай у Масаб'ельскай пячоры ў Люрдзе, дзе на пытаньне Бэрнардэты, як называецца тая нязвычайная жанчына, што ёй зьяўлялася ўжо колькі разоў, пачуўся адказ: «Я ёсьць Беззаганнае Зачацьце».

Тое, што сталася ў Люрдзе мела зварухнуць ўсім сьветам. Там пачалі дзеяцца цуды, якіх ня бачыў сьвет ад часоў Хрыста. У Люрдзе сьляпыя знаходзілі зрок, глухія — слух, кульгавыя пакідалі свае кастылі... Усялякія недаверкі маюць неабмежаваную магчымасьць усё гэта бачыць, аднак... як калісь вялікія грамады прайходзілі абыякава ля Галготы, ля гобу Хрыста, дзе адбылося уваскрасеньне, так і цяпер нязьлічаныя грамады абыякава прайходзяць праз Люрд!

І ў той-жа Францыі, дзе толькі людзей атрымала ласкі ў Люрд, параўнаўча да іншых вольных краінаў ёсьць ці не найбольш рэлігійна абыякавых і недаверкаў. Ды ня толькі ў Францыі, амаль уся Эўропа заражаная бацылем арэлігійнасьці. Тады, калі ў краінах за зялезнай заслонай і ў большай часьці Азіі біскупы, сьвятары і масы вернікаў церпяць жорсткі прасьлед за Бога і за свае рэлігійныя перакананьні, дык другая — вольная часьць сьвету-вязьне ў нетрах матэрыялізму і бяжбожжа.

Такое трагічна-жудаснае палажэньне ў сучасным сьвеце было матывам для папы Пія XII у абвешчаньні Марыйскага Году для ўшанаваньня 100-ых угодкаў абвешчаньня догмы беззаганнага пачацьця Дзевы-Марыі.

Год Марыі павінен стацца часам гарачых прыватных і публічных малітваў, паломніцтва да найбольш ведамых цудатворных марыйскіх мейсц, як Люрд, Фаціма, Лёрэто, Рым і інш.

Папа Пій XII ў энцыкліцы, якою абвесьціў Марыйскі Год, названаю ад першых яе слоў «Fulgens corona», зьвяртаецца да ўсіх з такім заахвочаньнем: «Трэба, каб сьвяткаваньне гэтага стагодняга юбілею ня толькі распаліла ў сэрцах усіх каталіцкую веру і гарачую пабожнасьць да Дзевы Маці Бога, але каб яно было штуршком — паколькі гэта магчыма — для датарнаваньня абычаяў хрысьціян да прыкладу Дзевы Марыі. Падобна таму, як усе маткі адчуваюць салодкія пачуцьці, калі заўважваюць, што аблічча іхных дзяцей адбівае падабенства іх рысаў, гэтак і Марыя, наша найласкавейшая Маці, ня можа мець большага жаданьня, ані большае радасьці ад тае, як калі можа бачыць адбіцьцё цнотаў свае душы ў думках, у словах і ў учынках тых, якіх яна, стоячы пад крыжам свайго адзінароднага Сына, прыняла ў Яго заступніцтве за сваіх дзяцей».

Марыйскі Год — гэта час адраджэньня адзінак і ўсяго грамадзтва. Для глыбей думаючых людзей ёсьць ясна, што толькі вонкавая цывілізацыя, каторая сёньня можа пахваліцца паважным поступам, трымаецца на ладзе духовага сьвету. Прыгожа аб гэтым пісаў вялікі хрысьціянскі філязоф сьв. Аўгустын: «Толькі засьлепленыя і крывадушныя сэрцы людзей могуць верць у прагрэс чалавецтва, калі асягаюць бліскучыя дахі будоўляў, хоць адбываецца ўпадак духа; калі ўзносяцца вялізарныя тэатры, але руйнуюцца асновы цнотаў; калі ўслаўляецца пагубная разбэшчанасьць і высмяваюцца учынкі міласэрнасьці...» (Migne, P.L.t. 33, 531). А ў іншым мейсцы ён кажа: «Толькі пры дысцыпліне абычаяў можна асягнуць веліч і славу бацькаўшчыны» (Migne, P.L.t., 33, 314).

Дабрабыт і грамадзкі прагрэс маюць адну і тую самую крыніцу што і чалавек. Цяжка выказаць гэта прыгажэй, ад успомненага тут сьв. Аўгустына, які кажа: «Не адкуль іначай шчасьце дзяржавы і адкуль іначай — чалавека».

Шматлікія мудрагелі ўжо ня раз прарочылі канец Каталіцкай Царкве, аднак іхныя прароцтвы заўсёды былі пустымі словамі. На Царкву налягалі няраз бурныя хвалі, але пасьля кожнае хвалі

нападаў, што пераліваліся праз, здавалася-б кволы карабель Царквы, яна заўсёды стаецца ясьнейшай і мацнейшай. Сваю сілу Царква чэпрае ад свайго боскага Заложыцеля, але між Ім і чалавецтвам усемагутнай пасрэдніцай ёсьць Марыя. Таму сьв. Царква прыпісвае ёй заслугу зьнішчэньня розных гэрэзіяў, што калісь моцна налягалі на асновы веры і абычаяў хрысьціян.

У 1758 г. Вольтэр цьвярдзіў, што для Царквы астаецца ячэ ўсяго якіх 20 гадоў існаваньня. Сотню гадоў пасьля Карлейль намагаўся ўгаварыць, што Царква гэта ўжо труп, які раскладаецца. Падобныя галасы былі чуваць да апошніх дзён Гітлера, Сталіна і ім падобных.

Усе яны выявіліся, як фальшывыя пракокі. Па іх і сьлед застыў, а Царква хаця і абліваецца пурпураю крыві, але з кожнага нападу выходзіць пераможніцай.

У Хрыстовай Царкве ёсьць веліч і сіла, аб чым людзі «гэтага сьвету» ня маюць паняцьця. Адною з такіх сілаў ёсьць Марыя — з усіх сатварэньняў яна найбліжэйшая да Ісуса Хрыста.

У годзе, прысьвечаным Мырыі, у асаблівы спосаб будзем маліцца да яе разам з папаю Піем XII:

«Найсьвяцейшая Дзева, каторая йдзеш разам з выгнанымі з бацькаўшчыны па шляхох сьвету ў пошуках працы і хлеба; Ты, каторая на сабе пазнала, чым ёсьць выгнаньне, глянь ласкава на нашы ўмовы і багаслаўвячы таго, хто госьціць Цябе ў сваім доме, вартуй, молім Цябе, над усімі, каторых прымус расьцярушвае па сьвеце, а братняя любоў іншых прыймае, далучаючы іх да сваіх найцяжэйшых працаў.

«Ты дапамога верных, пацеха прыгнобленых, будзь маткай поўнай любові для таго, хто, прымушаны лёсам, жыве далёка ад свае бацькаўшчыны сярод мук і турбот аб сабе, аб сваіх, ня маючы часта блізкага, што разумеў-бы поўнасьцю яго прыгнобленьне, падмацаваў-бы яго сілы, голасам крыві, падтрымаў-бы яго ад заламаньня духа.

«О, Марыя, зьдзейсьні, нам, расьцярушаным па сьвеце і нашым родным, што церпяць страх за нас на бацькаўшчыне, каб мы ўсе, падмацаваныя тваею міласэрнасьцю і ўспаможаныя тваею мацярынскаю апекаю, абароненыя тваею малітвай і адначасна падтрымоўваныя Верай, Надзеяй і Любоўю, ішлі праз жыцьцё ў сьвятым Божым страху, згодна з Божаю воляй, верныя Ісусу Хрысту і Яго Царкве, цешыліся пладамі хрысьціянскае справядлівасьці і заслужылі на спакой у дачаснасьці і дасканалае шчасьце ў вечнасьці. Аман».

Гэтую малітву мы, беларусы, павінны асабліва пакахаць .

**а. Ч. Сіповіч**

# Хрыстос — наш заўсёдны жыцьцёвы прыклад

У сілу свае лепшае, вышэйшае часьціны, свайго несьмяротнага духа, чалавек зьяўляецца зусім іншай і бязьмерна вышэйшай істотай ад усіх іншых істотаў на зямлі. Гэтай часьцінай ён належыць да духовага сьвету і сягае ў нябачымы сьвет — ў валадарства духа. Але адначасна праз гэта ён можа і мае абавязак усё больш і больш пазнаваць і любіць Бога, свайго нябеснага Айца, свайго Сатварыцеля ды старацца жыць і дзейнічаць згодна з Ягонай воляй, удасканальваць сябе аж да тае ступені, якое жадае ад людзей Хрыстос: «Будзьце даскакалымі, як і Айцец ваш нябесны ёсьць дасканалы» (Мат. V, 48).

Хоць як гэтае вымаганьне на першы пагляд выглядае неасягальным, аднак яно магчымае, бо ў сілу свае лепшае часьціны чалавек ад самага свайго пачатку належыць беспасрэдна да Бога і быў злучаны з Ім, як з сваім нябесным Айцом праз асаблівую асьвячаючую ласку, даную яму ў раі. Калі аднак чалавек страціў яе праз свой вялікі грэх непаслухмянасьці,дык потым Хрыстос вярнуў яму зноў права да вечнага жыцьця ў небе праз сваё ўцелаўленьне, сьмерць на Крыжы, уваскрасеньне і ўстанаўленьне сьвятых Тайнаў, праз якія даецца чалавеку асаблівая асьвячаючая ласка. Гэта даецца чалавеку для таго, каб мог выканаць сваю вялікую місію на зямлі: узьняцца на крыльлях духовага і маральнага жыцьця да Бога і жыць з Ім адным жыцьцём на ўлоньні Прэсьвятое Тройцы. У гэтым вялікім і сьвятым чыне, або лепш кажучы у сьвятым і надпрыродным жыцьці чалавека садзейнічаюць і людзкі розум, і сьвятая вера, і людзкая воля, і Божая ласка і ўсе дачасныя людзкія сілы, і Хрыстос праз Сваю Царкву. Вынікам гэтага чыну ёсьць сьвятасьць.

Асягненьне асабістае сьвятасьці — гэта ёсьць найважнейшае заданьне чалавека на гэтым сьвеце! Неразлучна з ёю зьвязаная сьвятасьць грамадзтва — гэта заданьне чалавека як грамадзкае адзінкі, асабліва тых, якія стаяць на чале грамадзтва. Бяз імкненьня да сьвятасьці чалавек і паасобна і як цэлае грамадзтва грашыць супраць людзкое натуры і супраць Божых прыказаньняў. Бог, сатварыўшы і збавіўшы людзкасьць ад вечнае загубы, ня мог пусьціць яе на ўзьвей-вецер, але ўлажыў ў людзкую душу пацяг к Яму і даў ёй асаблівую схільнасьць да набыцьця цнотаў веры, надзеі і любові, у сілу каторых чалавек можа, жывучы яшчэ на зямлі, ужо бытаваць на ўлоньні Прэсьвятое Тройцы, зьдзейсьніваючы поўнасьцю

гэтую лучнасьць у надпрыродным сьвеце ў іншым жыцьці.

Калі чалавек ня выконвае свае місіі, завяртае свой жыцьцёвы шлях на бездарожжа, дык няміну-ча дойдзе да таго жалюгоднага бытаваньня, у якім для цярпеньня і жудасьцяў няма ніякіх граніцаў. Аб гэтым ясна гаворыць нам сучаснае палажэньне чалавецтва на ўсім сьвеце. Калі на чале многіх народаў сталі людзі, якія адвярнуліся ад Бога, кінуліся ў абыймы багоў багацьця і матэрыялізму, дык на зямной кулі не перастаюць цячы сьлёзы і кроў, ня спыняюцца стогны і нараканьні. Не дарма аднак кажа народная мудрасьць: «Бяда хоць мучыць, але жыць вучыць». Дык і сучасная бяда шмат каму адчыніла вочы і дала моцны штуршок шукаць ратунку. А ратунак ёсьць адзін: наладзіць жыцьцё згодна з Божымі прыказаньнямі.

Але каб жыць поўнасьцю хрысьціянскім жыцьцём нам трэба мець прыклад. Без яго самыя словы і навукі, нават найпрыгажэйшыя астаюцца толькі прыгожым намерам. Словы вучаць, а прыклады пацягаюць — кажа старая як сьвет прыказка. Мы заахвочваемся да дабра, калі бачым яго перад сабою, і наадварот, да зла, калі бачым злыя прыклады ў нашым акружэньні. Ды во яшчэ што: бацькі могуць вучыць сваіх дзяцей як найлепш, як найпабажней, але калі самі ня жывуць прыкладна па-хрысьціянску, калі, наадварот, даюць дрэнны прыклад, дык іхняя навука для дзяцей дарэмная, бо дзеці пойдуць не за словамі, але шляхам іхняга жыцьця.

Для хрысьціянскага жыцьця ёсьць ідэальны ўзор, з якога мы можам і мусім браць прыклад. Тым узорам ёсьць сам Боскі Настаўнік Ісус Хрыстос.

Хрыстос як навучаў, так і Сам жыў; чаго вымагаў ад іншых, дык тое ў першую чаргу выконваў Сам. Ён шматкротна падчыркваў пры розных нагодах, што неабходна выконваць волю Айца Нябеснага і кожны з людзей павінен выконваць яе з поўнай адданасьцю, згодна з словамі малітвы: «Ойча наш... будзь воля Твая». І вось уся дзейнасьць Хрыста гэта ня што іншае, як выконваньне волі Нябеснага Айца: «Бо Я зышоў з неба не дзеля таго, каб чыніць Маю волю, але волю паслаўшага Мяне Айца» (Ів. VI, 38) — кажа Хрыстос да сабраных юдэяў. Калі надыходзіў час страшных мукаў, Хрыстос маліўся, каб адыйшла ад Яго чаша цярпеньня і мукаў, аднак дадае: «Але не Мая воля, але Твая, Ойча, хай станецца» (Лук. XXII, 42).

Да прыходу Хрыста на Зямлю, зло панавала тут усеўладна, і хоць людзі бачылі, што злом зла не пераможаш, толькі горш растравіш, аднак на яго ня мелі ніякае рады. Хрыстос навучае, што зло можна і трэба перамагчы любоўю і Сам дае прыклад усеперамагаючае любові. Калі-б Хрыстос толькі казаў: «Даю вам новае прыказаньне, каб любілі адзін аднаго» (Ів. XIII, 34), дык гэта было-б для людзей замала, але Хрыстос на працягу ўсяго свайго земскага жыцьця не пераставаў дзейна выказваць свае любові; Ён рабіў добрыя ўчынкі для ўсіх, аздараўляў хворых, якія толькі да Яго зьвярталіся; дароўваў грахі грэшнікам; карміў галодных, маліўся за сваіх крыўдзіцяляў і ўканцы працярпеў сьмерць на Крыжы за ўвесь людзкі род.

Да шчырае любові бліжняга няраз чалавеку стае на перашкодзе любоў да свайго роднага і сябе самога. Як умела спалучыць тэтыя часам супрацьлеглыя пачуцьці, выказаў Хрыстос у прыповесьці аб міласэрным самараніне (Лук. X, 30-37) і Сам рабіў дабро так для сваіх суродзічаў па целу, як і іншародцам.

Канчатковая мэта хрысціянскае дасканаласьці безьмежна перавышае ўсё дачаснае і дзеля гэтага яна асягальная толькі з помаччу Божае ласкі, але дзеля гэтага неабходна быць заўсёды ў лучнасьці з Богам і тут прыклад Хрыста найбольш павучальны. Пасьля цэладзеннае працы, пасьля доўгіх гадзін навучаньня Хрыстос яшчэ маліўся да позна ў начы. Гэта значыць, што праца і малітва мусяць ісьці ўпары, між імі мусіць быць заўсёдная лучнасьць. У прыповесьці аб вінаградная лазе Хрыстос зьвяртае ўвагу вучняў: «як галінка ня можа даваць плоду калі ня будзе на лазе, так і вы, калі ня будзеце ўва Мне» (Ів. XV, 4). Малітва ёсьць быццам жыватворчым сокам, які дае ўраджайнасьць учынкам.

Хрыстос наш вялікі і Боскі Ідэал, наш заўсёдны ўзор; і нашым сьвятым абавякам браць з Яго прыклад, прыпадобнівацца да Яго. Тым, чым Ён ёсьць з натуры, гэта значыць Сынам Божым, мы павінны стацца праз прасьвяту ласкі Божае, карыстаючы з сьвятых Тайнаў. Тым, чым Ён ёсьць і што чыніць як Сын Чалавечы, мы павінны старацца самі быць і чыніць, бяручы прыклад з Ягонае дабраты, справядлівасьці, чыстасьці, міласэрнасьці і любові. Пазнаючы лепш Хрыста і ўсё больш ідучы Ягоным сьледам, атрымаем ад Бога неабходныя нам сілы для асягненьня дачаснае і вечнае мэты нашага жыцьця.

**а. Я. Тарасэвіч**

## ЗВАРОТ ДА ЧЫТАЧОЎ

Распачынаючы восьмы год выдаваньня нашага часапісу, стаімо перад паважнымі матэрыяльнымі цяжкасьцямі і дзеля гэтага ня маем іншага выхаду як зьвярнуцца ўсіх тых, каму наш часапіс нясе духовую і нацыянальгую пажыву, каб падтрымалі нас у нашым цяжкім палажэньні.

**Рэдакцыя**

# Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі

(Заканчэньне)

## ВЯЛІКАЯ НЕСПАДЗЕВАНКА

Ня ўсьпела зацерціся ўражэньне ад аднае рэвізіі, як дня 17 лістапада зноў зьявіліся агэнты ГПУ у кватэры ўладыкі Балеслава, зрабілі зноў рэвізію і пры тэтым яго арыштавалі і павезьлі ў Новатуруханск. Там яму сказалі, што маюць яго выслаць у Краснаярск, але на гэтую заяву ўладыка выказаў свой супраціў, чаму падчас арышту не сказалі забраць з сабою рэчаў. Супраціў агэнты ўважылі ў нават далі падводу для падарожжа ў Старатуруханск. Праўда там рэчаў было ня шмат, ды яшчэ частку з іх уладыка аддаў Марыі Грыгорыеўне, але самае неабходнае такі ўдалося ўзяць з сабаю.

У Савецкім Саюзе арыштаваны ніколі ня знае, што яго чакае. Так было і з ўладыкай Балеславам; ён разам з чатырмя іншымі арыштаванымі ехаў у Краснаярск і думаў, якую новую неспадзеванку рыхтуе для яго ГПУ? Па дарозе кідалася ў вочы вялікае абядненьне вёсак у параўнаньні да 1931 г. Калектывізацыя зрабіла сваё. Некаторыя вёскі ў ваколіцы Краснаярску зусім пуставалі, хаты стаялі з забітымі вокнамі.

Падарожжа 1400 км прышлося адбываць санямі. Гэта быў час бездарожжа; слата і мароз чаргаваліся між сабою і праймалі падарожных аж да косьцяў. Калі ў нармальных абставінах гэтую адлегласьць поштаю праяжаецца за 10 дзён, дык цяпер прышлося ехаць аж 35 дзён, перажываючы шматлікія няпрыемныя выпадкі. У дарозе прышлося «адсьвяткаваць» Каляды падчас трохдзённага затрыманьня ў Енісейскай турме ў камэрах без вакон і без сьвятла, калі на дварэ лютаваў сібірскі мароз.

У Краснаярск канвой прыехаў 2. 1. 1933 г. Там асочны ГПУ быў даволі ветлівы аднасна ўладыкі Балеслава і доўга не затрымоўваючы на допытах, сказаў, што праз пару дзён уладыка паедзе ў Маскву, але тымчасам адаслаў сядзець у ізалятар, ведамы са свайго галоднага і халоднага рэжыму. На шчасьце ў тым жахлівым ізалятары гэтым разам давялося сядзець усяго тры дні. 5. 1. аўта ГПУ адвезла ўладыку Балеслава на станцыю і адтуль у таварыстве двух канвойных і аднаго агэнта ГПУ у асобным купэ ён паехаў у Маскву. Па дарозе ўладыка бачыў у сваім купэ, да якое плюгавае маральнае нізасьці здольныя агэнты ГПУ.

У Маскву прыехаў 11. 1. і тут для ўладукі Балеслава неспадзеванкі пачалі чаргавацца адна за адною. Пасьля тыднёвага затрыманьня ва ўнутранай турме ГПУ т. зв. сабачніку, дзе быў неймаверны сьціск у камэрах, і пасьля амаль штодзенных допытаў уладыку Балеслава перавезьлі 18. 1. у Бутырскую турму. Там, як звычайна, перш зрабілі дакладны вобыск, але потым... вось дзіва, адправілі ў лазьню і пасля лазьні яшчэ раз абшукалі ды адправілі ў асобную камэру, якая была зусім непадобная да звычайных турэмных савецкіх камэраў; у ёй стаяла кушэтка з матэрацам, накрытая дзяружкаю, наверсе ляжала невялікая падушка, у кутку стаяў невялікі стол і табурэцік, усюды было чыста. Есьці давалі чатыры разы дзённа і нячуваная рэч... раніцаю прыходзіў цырульнік. Што гэта магло значыць, уладыка Балеслаў ніяк ня мог дагадацца. Праўда гэткае «раскошнае» жыцьцё трывала ўсяго два дні.

Дня 20 студзеня ўладыку пасадзілі ў лімузыну і прывезьлі да аграмаднага будынку, на якім красаваўся напіс «Верховный Суд СССР». Можна было думаць, што плянуецца нейкі суд і гэтага чакаў уладыка, ідучы ў аграмадную салю пад канвоем агэнта ГПУ. У салі за сталом сядзеў якісьці ўрадовец ГПУ. Па хвіліне чаканьня туды ўвайшоў у таварыстве камандзера ГПУ якісьці чалавек апранены чыста паэўрапэйску, палажыў на стале перад урадоўцам ГПУ якісьці скрутак і зьвярнуўся да ўладыкі:

—Вы будзеце біскуп Слосканс?

— Так, я біскуп Слоканс.

— Пазвольце прадставіцца. Я д-р Білманіс, пасол латвійскага ўраду ў СССР і прыношу вам добрую вестку, што дзякуючы стараньням нашага ўраду вы заўтра паедзеце ў Латвію. Сьвяцейшы Айцец Вас багаслаўляе, а біск. Ранцанс вас вітае і чакае.

— Не, я нікуды з межаў СССР не паеду.

— Чаму так?

— Бо я хіратанізаваны на адміністраваньне Магілёўскае мітраполіі і валею астацца ў турме, ці ў канцэнтрацыйным лягэры і ўмерці там, чым пакінуць мітраполію супраць волі Сьвяцейшага Айца.

— Я вам кажу, як афіцыяльны прадстаўнік латвійскага ўраду, што вашае вызваленьне плянавана ў паразумленьні з Апостальскім Пасадам і што ёсьць выразная воля Сьвяцейшага Айца, каб вы скарысталі з нагоды выезду ў Латвію.

— Калі такая воля Сьвяцейшага Айца, дык зразумела, што яе выканаю.

Гутарка кончылася тым, што д-р Білманіс даў уладыцы Балеславу 100 рб. на дарогу і пакунак сандвічоў.

Разьвітаўшыся з латвійскім паслом, уладыка Балеслаў прайшоў праз падвойны вобыск і вярнуўся ў сваю камэру.

Наступнага дня 21. студзеня папалудні, калі ўжо ўладыка быў на станцыі ў пачакальнай салі,

пасол латвійскага ураду, які таксама прыехаў на станцыю, зьвярнуўся прыцішаным голасам да ўладыкі Балеслава:

— Я вас прашу, не расказваць аб тым, што тут перажывалі, бо такая ёсьць умова вашага вызваленьня.

Замест адказу ўладыка падышоў да начальніка канвою і голасна запытаў:

— Ці праўда, што мяне вызваляюць пад умоваю, што я ня маю права гаварыць аб сваіх перажываньнях?

Начальнік маўчаў. Уладыка паўтарыў пытаньне.

— Мы афіцыяльна начога ня ведаем. — Адказаў нарэшце начальнік.

Апошні канфлікт быў зьліквідаваны і ўладыку накіравалі ў вагон. Перад тым аднак як сесьці ў вагон зроблена дакладную рэвізію. Пры гэтым агэнты пазабіралі ўсё, што мела якуюсь вартасьць, а грошы, праўда, не забралі, але сказалі, што савецкае права забараняе іх вывозіць заграніцу, вось-жа трэба было за іх купіць штоколечы ў буфэце, або аддаць канфіскаце. Але ў буфэце прыгранічнае станцыі Бігосова ня было вялікага выбару. Уладыка купіў «прысмакі», якія там знайшліся і пляшку каньяку, але скарыстаць з іх усёроўна ня прышлося, бо ў Латвіі тых «прысмакаў» ніхто ня важыўся есьці, а ў пляшцы з «каньяком» панятыя ў вінным піцьве выявілі звычайную самагонку, толькі захварбаваную.

Дня 22 студзеня 1933 г. пасьля кароткае фармальнасьці вымены на якогасьці камуніста ўладыка Балеслаў пераехаў на Латвійскую гранічную станцыю Індра. Тут ужо чакаў яго біскуп Ранцанс і грамада старых знаёмых. Першы раз пасьля 15 гадоў зьняволеньня ўладыка адчуў, што знаходзіцца на волі міжі свабоднымі людзьмі. Гэтае ўражэньне нельга апісаць, яго можна толькі перажыць.

З Латвіі ўладыка Балеслаў напісаў ліст у Рым і атрымаў хуткі адказ, каб неадкладна сам зьявіўся туды. Прыехаў ён у Рым у Вялікую Сераду і таго-ж дня а 10 гадз. яму была назначана спэцыяльная аўдыенцыя ў Сьвяцейшата Айца Пія XI. Як стурбаваны бацька сустракае свайго любага сына, які вяртаўся з вялікае небясьпекі, так уладыку Балеслава сустрэў Сьвяцейшы Айцец. Ён зышоў з пасаду і накіраваўся з адчыненымі абыймамі да уходзячага ўладыкі, прытуліў яго да грудзей і тройчы пацалаваў. Гутарка цягнулася гадзіну і 15 мінут, бо і гутарыць было аб чым.

У Рыме ўладыка Балеслаў затрымаўся больш году, да траўня 1934 і атрымаў годнасьць Асыстэнта Апостальскага Пасаду. Потым адведаў краіны Зах. Эўропы і вяртаючыся ў Латвію адведаў Зах. Беларусь, быў госьцем у Пінску, Тараканях і Альбэртыне, дзе тварыліся пляцоўкі ўсходняга абраду. На стала затрымаўся ў Рызе, дзе быў духоўнікам у Духоўнай Сэмінарыі і прафэсарам на каталіцкім тэолёгічным факультэце пры Рыскім унівэрсытэце.

## НОВАЯ БУРА — НОВАЕ ВЫГНАНЬНЕ

Хвалі другое сусьветнае вайны пахавалі пад сабою незалежнасьць прыбалтыйскіх дзяржаваў. Дня 16 чэрвеня 1940 г. бальшавікі занялі Латвію. Пачаліся масавыя арышты і вывазы. У ліку ахвяраў бальшавіцкага тэрору знайшліся блізкія родныя ўладыкі Балеслава. Уначы 13/14 чэрвеня 1941 г., калі было вывезена 14.000 насельньня з Латвіі, між дэпартованымі былі брат з трымя сынамі і сястра ўладыкі. 26 чэрвеня 1941 г. ужо падчас савецка-нямецкае вайны, калі агэнты НКВД зьбіраліся ўцякаць з Дзьвінску, дзе ў той час быў уладыка Балеслаў, шукалі яго, каб арыштаваць і забраць з сабаю Адна дзяўчына, якая працавала ў НКВД у апошні мамэнт перасьцерагла ўладыку, што агэнты йдуць яго арыштоўваць. Уладыка хутка схаваўся ў «Новым касьцеле» пад аўтар Люрдзкай Богамаці. Агэнты выламалі дзьверы сьвятыні і абшукалі ўсе закуткі, але дарма. Яны жанчыне, што прыбірала сьвятыню, пагражалі растрэлам, калі ня выявіць, дзе схаваўся «вораг народу», але яна не зьлякалася рэвольвару, прыстаўленага да грудзей. Пошукі спыніла страшэнная паветраная бамбардыроўка. Якраз, калі агэнты зьбліжаліся да аўтара, дзе быў уладыка, раптам непадалёк разарвалася бомба і агэнты ў перапалоху хутка ўцяклі.

На зьмену бальшавікоў у Латвію, падобна як і на Беларусь ды іншыя суседнія краіны, прышлі немцы. Спачатку іх усюды віталі як вызвольнікаў, але хутка прыкра расчараваліся. Аднак і ў найпрыкрэйшым расчараваньне нельга аставацца бязьдзейным. На Беларусі актыў грамадзкіх дзеячоў рабіў усё магчымае, каб умацаваць свае вызвольныя пазіцыі і не пакідаў бяз увагі рэлігійнага жыцьця. Аднаго дня да ўладыкі Балеслава ў Рызе прышоў палкоўнік Кастусь Езавітаў у таварыстве двох іншых беларускіх дзеячоў з прапановаю пераехаць у Менск. Два разы зьвяртаўся да ўладыкі кс. Вінцэсь Гадлеўскі, але без дазволу нямецкае акупацыйнае ўлады гэткі крок рабіць было неразважна, ведаючы супрацькаталіцкае настаўленьне назістаў. Трэба было перш даведацца чаго можна было спадзявацца ад такога пераезду. Якраз тады зґаласіўся да ўладыкі галяндзкі езуіт а. Язэп Пэпэркорн, які працаваў у Латвіі і жадаў паехаць на Беларусь. Уладыка выдаў яму адпаведную намінацыю з якою ён атрымаў ад камэнданта ў Іллукшце цывільны і вайсковы дазвол ехаць у Менск і з гэтага адразу скарыстаў. Працаваў ён у ваколіцах Менску адзін месяц. Былі весткі, што нямецкае гэстапо за ім сочыць вельмі ўважна. Па месяцу працы ён дзесь зьнік бяз ніякіх вестак. Гэта нічога добрага не варажыла, але тэ-

орэтычна выезд быў магчымы і ўладыка Балеслаў падаў заяву гэнэральнаму камісару Латвіі гэн. Люббэ, каб атрымаць дазвол на падарожжа ў Менск. Адказ на заяву быў кароткі: «Мы ня можам здаволіць вашае просьбы» («Wir können nicht entsprechen»). Матываў адмовы не падавалася ніякіх. У гэткіх абставінах уладыка лічыў, што выезд быў-бы неразважным.

Супрацькаталіцкае настаўленьне назістоўскае ўлады з дня на дзень праяўлялася у штораз больш вострай форме. Летам 1942 г. адбыліся масавыя арышты і растрэл польскіх каталіцкіх сьвятароў у Баранавіцкай і Слонімскай акругах, але гэты злачын прыкрывалі быццам палітычнымі матывамі, бо арыштавалі тых, што адмовіліся карыстацца беларускаю моваю ў рэлігійным жыцьці, але хутка пасьля гэтага пачалі вынішчаць тых нешматлікіх беларускіх каталіцкіх сьвятароў, якія яшчэ захаваліся да таго часу і ня толькі карысталіся беларускаю моваю, але за яе шмат цярпелі; калі дзе каторы быў настаўнікам у беларускай школе, дык безцэрэмонна выкідалі, не зважаючы на ніякія апэляцыі беларускага актыву. За параўнаўча кароткі час загінулі: грэка-каталіцкі экзарх Беларусі а. Антон Неманцэвіч, сьледам за ім пайшлі сьвятары: Вінцэсь Гадлеўскі, д-р Станіслаў Глякоўскі, Дзяніс Малец, Казімер Рыбалтоўскі, Антон Ляшчэвіч, Юры Кашыра — гэтыя два апошнія былі спалены жыўцом. Для ўладыкі Балеслава зноў сталіся актуальнымі словы кансэкратара: «Мы вас хіратанізуем на мучаніцтва, але багаслаўляем на разважнасьць», а разважнасьць казала пачакаць.

Чакаць прышлося нядоўга. Ваенныя падзеі разьвіваліся хутка. Летам 1944 г. фронт перасоўваўся на Захад. Аднаго дня ўладыка Балеслаў разам з уладыкаю Язэпам Ранцансам атрымаў загад эвакуіравацца ў Нямеччыну. Там у Пфальцы мусіў паддацца апэрацыі і пакуль аздаравеў, дык настала капітуляцыя Нямеччыны.

Пасьля замірэньня ў 1946 г. Апостальскі Пасад даручыў уладыцы Балеславу правесьці візітацыю беларускіх асяродкаў у Нямеччыне, Францыі і Бэльгіі. Выканаўшы гэтае даручэньне і даўшы справаздачу ў Рым аб палажэньні беларускае эміграцыі, уладыка яшчэ нейкі час затрымаўся ў Нямеччыне, але хутка быў запрошаны на пражыцьцё ў Бэльгію. Скарыстаў з гэтага запрошаньня і ў Бэльгіі паважна прычыніўся да ўтварэньня беларускага студэнцкага цэнтру ў Лювэне. Пастановамі з 29. 5. 1952 г. і 4. 2. 1953 г. Апостальскі Пасад назначыў яго Апостальскім Візітатарам для беларусаў каталікоў усходняга і лацінскага абраду ў Заходняй Эўропе. Трэба спадзявацца, што міласэрны Бог багаславіць Яго Эксцэленцыю Балеслава Слоскана вярнуцца ў Магілёўскуёю і Менскую епархіі і там яшчэ доўга працаваць на карысьць Каталіцкае Царквы і Беларускага Народу.

**а. Л. Гарошка**

# Аб уплыве хрысьціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы

**(Заканчэньне)**

Тэрытарыяльнае магнацтва адыграла вялікую ролю ў фармаваньні і эвалюцыі беларускага законадаўства. На тых абшарах, якія належалі царкоўным інстытуцыям і вышэйшаму клеру, якраз гэтыя апошнія і зьяўляліся тэй непасрэднай і амаль выключнай крыніцай пануючага там права. Паўстаўшыя гэткім чынам у такіх магнацтвах нормы і законы, мусілі быць найбольш адказваючымі вымогам царкоўнае навукі, а творачы складовую частку агульнае юрыдычнае сыстэмы, ці маючы непасрэдны і вялікі ўплыў на яе фармаваньне, уводзілі туды элемэнты хрысьціянскае маралі, якія мелі служыць базай усім нормам і законам у матэрыі суадносін людзей у беларускай дзяржаве.

Адсутнасьць дастатковае колькасьці матэрыялаў і дадзеных адносна беларускага права з сярэднявечнага пэрыяду (57) змушае абмежавацца да гэтых некалькі агульных заўвагаў. Яны паслужаць за ўступ да наступнага пэрыяду ў беларускім правадаўстве; пэрыяду, які распачынае Літоўскі Статут, дзе будзем ўжо мець змогу затрымацца над спосабам нармаваньня і рэгуляцыі галаўнейшых аспэктаў адносна людзей, што ў сваю чаргу дапаможа ўканцы зрабіць адпаведныя выснаўкі. І тут дамо голас самым «артыкулам» Статуту; хай яны, абтросшы пыл стагодзьдзяў, самі прамаўляюць да чытача:

«Усе абываталі Вялікага Княства Літоўскага тым адным правам пісаным і ад нас даным, суджаны быці маюць», гучыць першы артыкул першага разьдзелу. — «Наперад мы, гаспадар, абяцуем і шлюбуем... іж усіх княжат, паноў-рад духоўных і сьвецкіх, станаў у тым панстве нашым Вялікім Княстве Літоўскім... пачаўшы ад Вышшага стану аж да ніжшага, тымі аднымі правы і артыкулы, у тым-жа Статуце ніжэй пісанымі і ад нас данымі, судзіці і справаваці маем» (58). Вось

57. Гэтага ня трэба разумець так, быццам іх наагул няма, ці ня было. Не, ёсьць цэлы рад дакумантаў з гэтага пэрыяду беларускага правадаўства, але нажаль іх тут немагчыма было дастаць.

58. Усе ўрыўкі з Літоўскага Статуту, якія тут падаюцца, узятыя з «Статуту Вялікага Княства Лістоўска-

маем практычнае ажыцьцяўленьне таго, што кажа ў Новым Запавеце ап. Павал: «Няма ўжо раба, ні свабоднага... бо ўсе вы адно ў Хрысьце Ісусе» (Гал. III, 28).

У іншым артыкуле (І. раз. III) законадаўца абяцае і шлюбуе ў першую чаргу бараніць інтарэсы і працаваць на карысьць свайго народу і свае бацькаўшчыны, ды спаўняць перад імі свае абавязкі, а ўканцы кажацца: «І хаця-б Пан Бог, з ласкі Свае сьвятое, нам, гаспадару, ужычыці рачыў панства іного, або і каралеўства, тады прэд ся сяго панства нашага Вялікага Княства Літоўскага князёў, паноў-рад духойных і сьвецкіх і ўсіх урадніқаў земскіх і дворных, шляхту і рыцарства і ўсіх іншых станаў ні ў чым не паніжаці, але ад усякае лёгкасьці і паніжэньня сьцерагчы і бараніці будзем, з помаччу Божаю, стараючыся а прымнажэньне і вывышшэньне таго панства і ўсіх дастойнасьцяў, аздоб і пажыткаў, з найбольшаю пільнасьцю і ўсіламаньнем нашым».

Свабода сумленьня і рэлігійная талеранцыя гарантуюцца законадаўчым шляхам. У арт. 3.III (59) кажацца: «А іж тэж прывілеем і папрысяжэньнем нашым ёсьць уцьверджана пакою межы рознымі ў рэлігіі сьцерагчы»...

«А іж у рэчы паспалітай ёсьць рознасьць немалая з стараны веры хрысьціянскае, забягаючы таму, абы ся з тое прычыны межы людзьмі зашцьце якое шкадлівае ня вшчэла, каторую па іншых каралеўствах ясна відзім, абяцуем то сабе спольна за нас і за патомкі нашы на вечныя часы пад абавязкам прысягі, пад вераю, чэсьцю і сумленьнем нашым, іж, каторыя есьцясьмо розьні ў веры, пакой межы сабою захаваці, а для рознае веры і адмены ў касьцёлах крыві не праліваці, ані ся караці адсуджаньнем маетнасьці, пачцівасьці, вязеньнем і выгнаньнем, і зьверхнасьці жаднае ані ўраду да таковага поступку жадным спосабам не памагаць, і оўшэм дзе-б яе хто праліваць хацеў, з тае прычыны застаўляць ся а тое ўсё будзем павінны, хаця-б тэж пад аблігам выраку або за паступкам якім судовым хто то ўчыніць хацеў».

З іншых асабістых вольнасьцяў гарантуецца свабода выезду ў іншую краіну (16/III), «кроме зямель няпрыяцельскіх» і краіна тая мае быць хрысьціянскай. У тым-жа артыкуле рэгулюецца справа апекі над маемасьцю выехаўшага. У выпадку, калі-б ён памёр «урад наш земскі судовы маець апякуна, чалавека добрага, растаропнага, цнатлівага, пабожнага і добра ў тым панстве і ў тым-жа павеце, дзе тыя іменьні ляжаць, аселага, на таковыя іменьні ўстанавіці...»

Нявольнікі яшчэ прызнаюцца Літоўскім Статутам, але іх бярэцца ў апеку хоць у некаторых выпадках. Арт. 20/XII кажа, калі-б пан сваю чэлядзь нявольную ў галодны час выгнаў з дому, ня хочучы яе карміць, і яна-б сама сябе пракарміла, то «таковыя ўжо ня маюць быці нявольнымі, але вольнымі».

Ня ўсе веравызнаньні ў Вялікім Княстве Літоўскім карысталіся з тых самых правоў, што да юрыдычных эфэктаў, але хрысьціянскія веравызнаньні мелі ўпрывілеяванае становішча. Нехрысьціяне ў некаторых выпадках былі пазбаўлены некаторых юрыдычных магчымасьцяў (59), як гэта мела мейсца напр. з правам быць сьведкаю: "ня маюць ку сьвядэцтву прыпушчаны быці жыдове, адно людзі веры хрысьціянскае ўсякага стану і тыя, каторыя прывілеям нашым ку сьвядэцтву прыпушчаны, толькі-б былі людзі добрыя, цнатлівыя, багабойныя і нічым не падазронныя...» кажацца ў атр. 14/IX.

У **сямейным праве** падчырквуаўся аўтарытэт бацькі. Калі дзеці важыліся панізіць, ці абразіць бацькаўскую годнасьць, дык бацька мог іх вырачыся. Арт. 7/VIII пералічае тыя прычыны, калі бацькі могуць вырачыся сваіх дзяцей: «Першая — есьлі-б сын, або дачка, ня помнячы на Пана Бога і на родзічы сваі, таргнуўся рукою, ударыў або пхнуў з гневу, таковага ня толькі вырачыся можэць, але горлам ад ураду, за жалабаю і довадам родзічаў каран быці маець,

другая — калі-б сын, або дзеўка значную крыўду родзічам чынілі ў забіраньню маетнасьці бяз волі і ведамасьці іх,

трэцяя — естлі-бы сын або дзеўка са злосьці сваёй, а не для пажытку рэчы паспалітае, фальдравалі на родзічаў сваіх, на горла каму гволі,

чацьвёртая — естлі-бы ся трапіла, дзе ў права айца або маткі ручыць не хацелі ку пастанавеньню, а звлашча дзе-б таго ўрад дапусьціў.

пятая — естлі-бы дзеўка не статэчна, чыстасьць сваю на вшэтэчэнства абарачаючы, мяшкала,

шостая — естлі-бы родзічаў сваіх апусьцілі ў зошлых і старых лецех, а не давалі жыўнасьці і іншых патрэб родзічам,

сёмая — тды-бы родзічаў з рук няпрыяцельскіх акупіць, або вызваліць не хацелі, а маетнасьці атцоўскае, або матчынае ўжывалі».

У **сужэнскім праве** маецца ня толькі ўплыў хрысьціянства, але так-жа выразнае датарнаваньне да царкоўнага права. Вось напр. артыкул датычны разводаў 20/V: «Тэж уставуем, іж развод малжэнскі, каму-бы да таго спору і розьніцы прыходзіла, маець быці водлуг права хрысьціянскага кождым асобам нідзе індзе, адно перад судом духоўным іх набажэнства».

«І естлі муж застанець вінен з расудку права духоўнага, тады жана застанець на аправе ад яе

---

га 1588 году (выняткі)», Ватэнштэт 1947 (выд. Ч. Будзькі), што ў сваю чаргу ёсьць перадрукам з выд. І. І. Лаппо: «Літоўскі Статут 1588 году», Т. І. (тэкст), Коўня 1938, стар. XLVIII+516.

59. У далейшым першая цыфра будзе азначаць артыкул, а другая, рымская, разьдзел Статуту.

апісанай... а пак лі-бы жана вінна найдзена, тады ўнясеньня і аправу сваю траціць».

Калі-б аднак развод быў выкліканы слушнымі прычынамі, «іж ся малжэнства ў няведамасьці і крэўнасьці стала, альбо для іншых прычын, каторыя-бы ся перад правам духоўным паказалі, іж-бы слушны развод меў быці, тады пры разводзе прывенак пры мужу, а ўнясеньне пры жане застаці маець».

Уканцы зазначаецца: «Але на расправу судовую межы такімі разьведзенымі вакол вяна маець суд духоўны, выпісаўшы праўдзіва і верна прычыны разводу, адаслаці іх да суду належнага сьвецкага... які... водлуг навукі сяго Статуту» задэцыдуе ў справе маемасьці.

Тут бачым, што кампэтэнцыі між духоўнымі і сьвецкімі судамі былі падзелены. Гэтай справе прысьвячаецца спэцыяльны арт. 31/III. «А непазываньне сьвецкіх у духоўнае права а рэчы сьвецкія», дзе чытаем: «Тэж уставуем, іж біскупове, пралаці стану духоўнага і іх спраўцы княжат, паноў і ўсей шляхты-рыцарства, і мяшчан, і ўсіх падданых нашых, як і шляхоцкіх, ня маюць нікога ку сабе да духоўнага права а сьвецкія рэчы пазываці»... Але, «Ніжлі што ку праву духоўнаму належаці і прыслухаці будзець, то ў духоўным праве справована і суджана быці маець».

Аб поўнапраўнасьці жанчыны ў Вялікім Княстве сьведчыць артыкул датычны выхаду замуж жанчыны 39/III: «Тэж абяцуем і прыракаем, іж княгінь, паней-удоў, княжэн, панен, дзевак шляхцянак і ўсякага іншага стану ражаю жэнскага, як людзей вольных, пад вольным панаваньнем нашым гаспадарскім у тым панстве нашым Вялікім Княстве Літоўскім мяшкаючых, пры вольнасьцях іх захаваці маем, а гвалтам ні за каго ня маем даваці бяз волі іх, з парадаю прыяцеляў іх, за каго хаця, за таго ў малжэнства вольна будзець хадзіці і аддаваціся».

Сям'я ў Вялікім Княстве Літоўскім цешылася спэцыяльнай апекай і маецца цэлы рад дыспазыцыяў, якія прызначаны для абароны яе ад магчымых вонкавых пасяганьняў, накіраваных супраць хрысьціянскіх сямейных прынцыпаў і маралі. Характэрным з гэтага гледзішча ёсьць арт. 29/XIV, у якім гаворыцца: «Паўсьцягаючы злосьць людзей свавольных, уставуем, іж дзе-б хто, якога - кольвек стану будучы, прапомнеўшы баязьні Божае і павіннасьці сваей хрысьціянскае, сьмеў падмовіці і ўзяці каму жану, хаця-ж з яе прызваленьнем, і ўехаў-бы з ёю, тады, будзець лі пасьцігнен у дарозе, у месьце, у гасподзе і на каторым кольвек месцу, маець быці пойман і да ўраду гродзкага ведзен, як і каторы іны злачынца, або тэж з аселасьці яго земскае позвы ку праву будучы прыцягнен на рок завіты, — таковы за довадам слушным горла траціць». «Так тэж і тая нявеста, каторая на то пазволіла, на горла карана быці маець і кроме таго, естлі-бы муж яе на горла караці не хацеў, — то маець застаці пры волі яго».

**Права ўласнасьці.** Яно ня было абсалютным і ў пэўных выпадках меліся абмежаньні ў карыстаньні з яго. Гэтыя абмежаваньні заключаліся ў тым, што ўласьнік ня меў права вольна дыспанаваць сваімі добрамі, сваею маемасьцю ў выпадку, калі-б чыніў пры гэтым шкоду іншаму. І так у арт. 21/IX аб патапленьні сваім ставам іншага ставу або сенажаці, і аб прысыпаньні грэблі да чужога берагу кажацца, што ў такіх выпадках уся спрычыненая шкода мае быць напраўленая, паднятая вада мае быць зьніжаная і прысыпленая грэбля адкапаная. Калі-б аднак пашкадаваны да 10 гадоў не скарыстаў з свайго права, дык «тады ўжо таковы ато вечна маўчаці маець».

Вельмі цікавы з гэтага гледзішча ёсьць арт. 31/IX у якім кажацца, што калі-б хто вязучы водным шляхам тавары і меў няшчасны выпадак, што судно разьбілася і тавары патапіліся, дык іх уласьнік мае права выцягваць тавары з вады на бераг, пры чым гаспадар берагу ня можа вымагаць за гэта ніякае аплаты. «А хто-б хацеў тым онаму стануламу труднасьці задаваці, тады будзець павінен усю шкоду, што будзець на тым шкадаваці, савіта аправіці».

**Карнае права.** Усякага роду праступствы, асабліва крамольныя, караліся з асаблівай суровасьцю. Умыснае забойства сынам ці дачкою бацькі або маткі, або калі-б каторы з іх нейкім чынам прычыніўся да сьмерці свайго родзіча, «ня тольні горлам маець быці каран — кажа арт. 7/XI — але і пачцівасьці і ўсі іменьня і маетнасьць траціць на іншую брацьцю, сёстры, або блізкіх сваіх, звлашча таго ўчынку нявінных.

У выпадку, калі-б бацькі сваё дзіця ўмысна забілі, тады «таковы ацец і матка маюць быці караны за тое — год і шэсьць нядзель, маюць яшчэ да году чатыры крочь пры цэркві, пры касьцеле, якога набажэнства хрысьціянскага будзець, пакутаваці і вызнаваці яўны грэх свой перад усімі людзьмі сабраньня хрысьціянскага».

Практыкаваньне абортаў было сурова забаронена і вінных каралася сьмерцю. Гэтак арт. 60/XI кажа: «Рады то відзячы, абы ў панстве нашым хрысьціянскім усякая ўчцівасьць і паважнасьць, паваланьню хрысьціянскаму належачая, была захована, а праціўныя таму жэбы караньне слушнае на сябе аднасілі, адкуль-бы і іншыя нярадная прадсяўзяцьця свайго паўсьцягаціся маглі, уставуем, іж гды-бы каторая белая галава, ня жывучы ў стане малжэнскім, але вшэтэчне ся і нерадне справуючы, і так плоду набыўшы, а па тым для стыду або баязьні караньня той плод сама або цераз каго інага траціла і на сьмерць прыправіла, а на тым учынку была-бы сама альбо той, хто ад яе справаваці то будзець, пойманa альбо-бы то якім слушаным, пэўным, і яўным довадам пераведзена была, таковыя, як той, хто ся таго чы-

ніці а плод такі губіці падвязаў як і тая, каторая плод свой на страту дала, самі маюць горлам караны быці». «А ў таковай рэчы ўрады нашы гродскія і местскія маюць выведаньне чыніці і таго пасьцерагаці, а дазнаных і правам у тым перакононаных караці».

Вызваньне на руку (дуэль) забаранялася Літоўскім Статутам і, «не інак, адно на горла маець быці каран на сьмерць — той хто вызваў, або хто астаўся жывы з дуэлі — і кроў яго сваёю кроўю заплаціці маець»... арт. 14/XI.

Зладзейства каралася як цяжкае праступства. Вось некалькі прыкладаў: «Уставуем: каму-б зладзейскім абычаем злоўлена рыбу ў ставе або ў сажаўцы, таковы, гды будзець пойман і прыведзен да ўраду з ліцом (пакражаю) першы раз, за довадам маець быці пугамі біт».

«А дзе-б той-жа другі раз з ліцом быў пойман, той за довадам слушным урэзаньнем вуха каран будзець».

«А естлі ся тако-ж трэці раз дапусьціць, той за довадам слушным маець быці каран як злодзей (горлам), хаця-б ліцо ня стояла, шацуючы, і дзесяці грашэй».

Ува ўсіх выпадках «ня маець ніхто ні за каго цярпеці, толькі кожды сам за сябе» кажа арт. 18/I. «Тэж уставуем, іж ніхто ні за чыйкольвек учынак ня маець каран і сказован быці, толькі той, каторы ў чым сам вінен зостанець, гдыж таго права Божае і справядлівасьць вучыць, якож так хочам меці, абы ні аціц за сына, ані сын за атца... і слуга за пана, пан за слугу, і ніхто іны ні за чый выступ і учынак ня быў каран, толькі кожды сам за свой выступ маець цярпеці і каран быці».

І ўканцы заўважым яшчэ, што карчмы, як мейсца дзе падкопвалася матэрыяльнае і духовае здароўе народу, былі забаронены ў Вялікім Літоўскім Княстве. Дазваляліся толькі «стадолы пры гасьцінцах і дарогах звычных... у каторых для людзей пераеждзжых як рэчы страўня, так і шынак уставічна быці можэць».

«А таковыя корчмы пакутныя — у якіх як кажаціа вышэй — уставічна забойства, зладзейства, разбой і іншыя многія збыткі дзеюцца... у кождым ваяводзтве, землях і паветах урад наш гродскі... гамаваці маець, і дзе-б у каторага кольвек падданага нашага піва, на шынк уваранае, так-жа мёд і гарэлку шынкаўную знайшлі, тады як трунк, так і ўсё начыньне піўнае, мёдавае і гарэлачнае, катлы, кублы, бочкі а ня іншую маетнасьць, забіраці маюць да замку або двору нашага, а з таго палавіна пажутку маець іці на шпіталь, а другая палавіна на оны ўрад гродскі».

З усяго вышэй сказанага, выразна бачым, у якім кінурку йшла эвалюцыя беларускіх пісаных і звычаёвых правоў, пачынаючы ад часу прыняцьця хрысьціянства і да канца XVI ст., дзе мы спыніліся. Якую-ж ролю адыграла хрысьціянства ў гэтай эвалюцыі?

«Моцная рэлігія — кажа Буркгард — разьвіваецца і пранікае ўва ўсе жыцьцёвыя справы, захварбоўваючы кожны духовы імпульс і кожны элемэнт культуры» (60). Так было і ў нас.

Такім чынам хрысьціянства пакана ўшы пагенізм на нашых землях, і знайшоўшы падатны грунт для свайго разьвіцьця, пачало пранікаць ува ўсе галіны індывідуальнага і сацыяльнага жыцьця, з тою мэтаю, каб там праявіўшыся навонках у сваіх чынах сфармаваць нанова ўсё грамадзтва, выходзячы з самога сябе, ці базуючыся на сваіх уласных прынцыпах і маралі. У нашым канкрэтным выпадку ўплыву хрысьціянства на беларускія звычаёвыя і пісаныя правы, роля хрысьціянства заключалася, у пачаткавай стадыі, у прышчапленьні ўжо існуючай юрыдычнай сыстэме хрысьціянскіх прынцыпаў і маралі, якія, культываваныя пазьней на працягу стагодзьдзяў, далі прыгожы рэзультат у галіне беларускае юрыдычнае культуры, творам якое, і найлепшым адбіткам якое зьяўляецца Літоўскі Статут. З цытаваных урыўкаў Літоўскага Статуту дакладна гэта бачым, бо ніякія іншыя, як толькі хрысьціянскія прынцыпы заключае ў сабе так ягоная форма як і ягоны зьмет.

**Янка Сурвіла.**

60. **Jakob Burchardt, Weltgeschichliche Betrachtungen (Stuttgart 1949) st. 98.**

# Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі

Ужо ў Нр. 2 «Божым шляхам» быў паданы сьпіс больш ведамых іконаў Божае Маці на Беларусі, але нажаль той сьпіс быў вельмі няпоўны. Сёлета з нагоды Марыйскага Году, калі паўсюдна збольшваецца пашану да Багародзіцы, варта такжа зьвярнуць увагу на выяў пашаны беларускага нарору да Багародзіцы ў мінулым. Адным з вымоўных выяваў гэтае пашаны ёсьць вялікая колькасьць слаўных іконаў і абразоў, куды штогод сходзіліся вернікі з бліжэйшых і далейшых ваколіцаў, каб аддаць паклон Богу праз пасрэдніцтва найсьвяцейшае Заступніцы. Вось іхны сьпіс у альфабэтным парадку:

**Балыкінская** ікона Божае Маці знайходзілася ў в. Мазалеўшчына 13 км. ад Мсьціслаўя. Уславілася аздараўленьнем хворых. Паходжаньне няведамае. Сьвяткаваньне 30-га чэрвеня і на Дзесятуху (Дзесятая пятніца па Вялікадні). Копіі гэтае іконы знайходзіліся: у Мсьціслаўскім жан. манстыры, у Старадубе, у Новых Баровічах і ў Маскве.

**Баркулабаўская.** Паходзіць з XVII ст. і да вайны знайходзілася ў Буйніцкім Святадухавым

манастыры 7 км. ад Магілёва. Яе меў падараваць туды князь Пажарскі, калі прайходзіў з маскоўскім войскам праз Беларусь. Сьвяткаваньне 11-га ліпеня. Цяпер знайходзіцца ў Стара-Быхаўскай царкве.

**Барунская**. Знайходзілася ў Барунскім манастыры Ашмянскае акр. на Віленшчыне. Дня сьвяткаваньне ня мае.

**Беластоцкая.** — Да апошняе вайны яна знайходзілася ў Беластоцкім манастыры. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Белацаркоўская.** Знайходзілася ў Тоіцкай Белацаркоўскай парахвіяльнай царкве Сеньненскае акр. у Магілёўшчыне. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Будслаўская.** Паходзіць з XVII ст. Знайходзілася ў мяйсцовай парахвіяльнай царкве ў капліцы сьв. Барбары на галоўным аўтары.

**Бялыніцкая.** Яна ведамая з XIII ст. і забражае Божую Маці, на левай руцэ Яна трымае Дзіцятка Ісуса, а ў правай — скіпетр. Да вайны знайходзілася ў мужчынскім Мікалаеўскім манастыры ў Бялынічах 30 км. ад Магілёва. Уславілася шматлікімі цудамі. Сьвяткаваньне 12(25) красавіка.

**Вальнянская.** Ікона даволі старая і знайходзілася ў Сьвятатроіцкай царкве Менскае епархіі. Пры царкве была хроніка з запісамі цудаў ад 1660 да 1701 гадоў. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Васількаўская.** Паходзіць з XV ст. і прадстаўляе Багародзіцу ў маліцьвеннай паставе з мячом у грудзях. Адносна яе паходжаньня ёсьць такі пераказ: Якогась жабрака Васіля пакінула ягоная дачка-праваднiца ў лесе каля в. Васількаў 10 км. ад Беластоку. Ноччу яму зьявілася ў сьне Божая Маці і загадала раскапаць пясок на тым мейсцы, дзе ён спаў і, знойдзенаю там вадою, прамыць вочы. Ён так зрабіў і пачаў бачыць. Пры тым ён быў моцна зьдзіўлены, што перад ім на дрэве знайходзіўся абраз Багародзіцы якраз такі, які бачыў у сьне. Над раскапанаю ямаю ён збудаваў будку і там паставіў абраз. Потым на тым мейсцы пабудована дзераўляную царкву, а ў 1864 г. каменную. Сьвяткаваньне 24 кастрычніка, 16 лістапада і на Дзесятуху.

**Васькаўская.** Яе знайшоў Іван Дзядзько каля 1760 г. на дзікай грушы на абтоку Ваською каля в. Малішковічы над Прыпяцьцю ў Мазыршчыне. На мейсцы знахадкі мяйсцовы памешчык Казімер Аскерко пабудаваў Крыжаўзьдзьвіжанскую царкву. Потым арыгінал ікона перанесена ў Ельскую Троіцкую царкву, а ў Васькаве асталася копія. Сьвяткаваньне ў Праводную нядзелю.

**Віленская** одзігітрыя (правадырка па шляхох). Паводля легэндарнага пераказу яе меў намаляваць ап. Лука і яна даўжэйшы час знайходзілася ў бізантыйскіх імпэратараў як сямейная сьвятасьць. Калі Софія апошняя прадстаўніца з роду бізантыйскіх Палеолёгаў выходзіла ў 1472 г. замуж за маскоўскага вял. кн. Івана III (потым цара), дык прынесла яе з сабою ў Маскву. У 1495 г. Іван III выдаючы сваю дачку Алену замуж за вял. кн. Аляксандра, багаславіў яе тою іконаю. Па сьмерці Алены ікона была пастаўлена на яе гробніцы ў Прачысьценскім саборы ў Вільні. Потым яе перанесена ў Сьвятатроіцкі манастыр і памешчана ў іконастасе. Нажаль у 1864 г. акадэмік Васільеў перамаляваў яе, пакрываючы стары малюнак тоўстым пластам хварбы. Намалявана ікона на чатырох дошках, з іх сярэрнія кіпарысавыя, а крайнія бярозавыя. Сьвяткаваньне 14(27) красавіка.

**Віленская Вострабрамская.** Адносна яе па-



ходжаньня ёсьць два пераказы. Адзін кажа, што быццам яе меў узяць з Корсуня вялікі князь Альгэрд у 1363 г., куды меў зайсьці з сваім войскам. Вярнуўшыся ў Вільню, ён меў перадаць ікону жонцы Юльяне, а яна ў сваю чаргу перадала яе ў Троіцкі манастыр. Іншы пераказ цьвердзіць. што ікона зьявілася на гарадзкой браме 14 красавіка 1431 г. няма ведама адкуль. На іконе Маці Божая забражана бяз дзіцятва Ісуса. На Усходзе пастановаю Эфэскага сабору такія іконы былі забаронены, таму яе паходжаньне трэба шукаць на Беларусі, бо і самыя рысы аблічча Богамаці ня маюць нічога ўсходняга — гэта прыгожае беларускае аблічча. Ад 1431 г. ікона знайходзілася ў Вострай Браме гарадзкое сьцяны. У 1498 г. была пабудована навокал Вільні новая абаронная сьцяна, тады над Востраю Брамаю была збудаваная вялікая вежа, а ў ёй капліца і туды перанесена ікону. Агулам гісторыя Вострабрамскае іконы, як і гісторыя Вільні вельмі багатая і няраз трагічная.

Немагчыма яе тут перaказаць нават у скароце. Шматлікія цуды, што дзеяліся каля яе, зрабілі яе шырока ведамаю па ўсёй Беларусі і ў суседніх краінах. Сьвяцейшыя Айцы Клімэнт XIV і Пій VI прызналі спэцыяльныя адпусты за ўдзел у багаслужэньнях на чэсьць Вострабрамскае Божае Маці, а з багаславенства папы Бэндыкта XIV віленскі біскуп Зенкевіч 8 верасьня 1750 г. карануе яе прысланаю з Рыму каронаю. Уканцы XVIII ст. чэсьць да іконы была так вялікаю, што ўсе, хто прайходзіў ці праязджаў праз Вострабрамскую вуліцу (нават жыды) здымалі шапкі. Гэты звычай стаўся законам на аснове распараджэньня расейскага гэнэрал-губэрнатара з 1795 г. За часоў польскае акупацыі ікона каранавалася яшчэ другі раз, але ўжо на «Каралеву польскае кароны» — супраць такога надужываньня рэлігійных сьвятасьцяў беларусы ня мелі магчымасьці нават голасна запратэставаць. Аб сучасным стане гэтае цудатворнае іконы даходзяць супярэчныя весткі.

**Віцебская** — Казанская. Паходзіць з 1521 г. Сьвяткаваньне 8 ліпеня.

**Гавезьнянская.** Паходзіць праўдападобна з XVII ст. Зьявілася сялянам Рыгору, Ганьне і Раісе каля мэстэчка Гавязна і на тым мейсцы была пабудована царква, у якой была хроніка апісаных цудаў ад 1692 г. да 1829 г. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Гарадышчанская** або **Шкаплерная.** Паходзіць з 1473 г. Маці Божая забражана бяз Дзіцятка і мае сем мячоў у сэрцы. Перш належала да шкаплернага брацтва, а потым была ў парахвіяльнай царкве ў Гарадышчы каля Пінску. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Гарбацэвіцкая.** Яе знайшоў на пачатку XVIII ст. селянін Каўтун у лесе на ліпавым дрэве каля мястэчка Гарбацэвічы. Там была пабудована царква. Потым ікона перахоўвалася ў Рызапаложанскай царкве Менскае епархіі. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Гаруціская.** Паходжаньне яе няведамае. Да 1851 г. знайходзілася ў Гаруціскай царкве, а калі яе зачынілі дзеля старасьці, дык ікону перанесена ў Петрапаўлаўскую Старжынскую царкву Менскае епархіі. Мяйсцовы памешчык, цудоўна празрэўшы ля іконы, аздобіў яе сярэбранаю рызаю. Дня сьвяткаваньня ня мае.

**Груздоўская.** Знайходзілася ў в. Груздава на Віленшчыне. Сьвяткаваньне 2(15) чэрвеня.

**Дзьвінская.** Паводля традыцыі яна мела быць уласнасьцю сьв. Клімэнта папы Рымскага. З пашырэньнем хрысьціянства на Беларусі няма ведама якім чынам яна знайшлася ў Дзьвінску. А калі яго ў 1419 г. пустошылі мурманцы, адзін ваяка мячом пашкодзіў аблічча Богамаці на іконе. Потым яе перавезена ў Расею аж у ваколіцы Архангельску. Сьвяткаваньне 25 лістапада.

**Дудзіцкая.** Яе знайшлі ў лесе на хвоі і там пабудована царкву. У 1891 г. царква згарэла разам з іконаю, але перш яшчэ з яе была зроблена копія і яна знайходзіцца ў Пакроўскай царкве мяст. Дудзічы Ігуменскае акр.

**Жыровіцкая.** Яе знайшлі пастушкі на дрэве ў лесе ў 1470 г. Уславілася шматлікімі цудамі і дня 19 верасьня 1730 г. з багаславенства папы Клімэнта XII была каранаваная на «Валадарку беларускага народу». Сьвяткаваньне 7(20) траўня. Дакладней аб ёй глядзі ў «Божым шляхам». Нр. 8.

(Далей будзе)

# Грэцкая калегія ў Рыме і Беларусы

### Крыху гісторыі

Адным з вельмі важных, але мала дасьледжаных пытаньняў у гісторыі Беларускае Царквы ёсьць пытаньне асьветы духавенства. У гэтым дачыненьні не малое значэньне мела грэцкая калегія сьв. Атаназія. Праз усё XVII і амаль усё XVIII стагодзі гэтая калегія была мейсцам узгадаваньня высокіх дастойнікаў Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду (т. зв. Вуніяцкае) на Беларусі. Гэты кароткі нарыс мае на мэце падаць хоць агульны абраз таго найважнейшага калісь асяродку асьветы.

Грэцкая калегія сьв. Атаназія была заснавана папаю Грыгорым XIII у 1577 г. Гэты вялікі папа заслужыў сабе славу дбайлівасьцю аб асьвеце будучых працаўнікоў на Хрыстовай ніве. За ягонага пантыфікату ў Рыме паўсталі калегіі для розных нацыяў, асабліва для тых, якіх вера найбольш пацярпела ад пратэстантызму.

Заняты перадусім лёсам Зах. Эўропы, якая ў той час асабліва балюча перажывала закалоты, выкліканыя рэфармацыяю, Грыгоры XIII не забыўся таксама і аб тым народзе, які калісь быў гордасьцю і красою хрысціянства, а ў XVI в. перажываў паніжэньне і ўпадак. Грэцыя, некалі бацькаўшчына такіх вялікіх сьвятых, як: Васілі Вялікі, Іван Залатавусны, Атаназі Вялікі, Грыгоры Багаслоў, Хведар Студыт і інш. — у той час знаходзілася ў трагічным палажэньні. Рэлігійна адарваная ад Апостальскага Пасаду, палітычна змушаная цярпець паніжаючую турэцкую няволю, яна знайходзілася ў стане ня бывалага да гэтага часу ў яе гісторыі культурнага і духовага заняпаду.

Ня маючы іншае магчымасьці дапамагчы Грэцыі, Грыгоры XIII закладае ў Рыме Грэцкую калегію, якая мела стацца мейсцам узгадаваньня маладых грэкаў, якія атрымаўшы належную асьвету, заняліся-б і апостальскай і агульнапрасьветнай

дзейнасьцю між сваіх суродзічаў. Хоць галоўным заданьнем калегіі было ўзгадаваньне сьвятароў, аднак прыняцьце сьвятарскіх сьвячэньняў ня было абавязкавым. Дзеля гэтага на працягу першых гадоў яе існаваньня з калегіі побач сьвятароў выйшла так-жа шмат выдатных сьвецкіх людзей.

Будову калегіі папа даручыў архітэкту Джакомо дэльля Порто. Мейсца для калегіі было куплена ў аднэй з найпрыгажэйшых частак гораду недалёка ад узгорку Пінчё пры вія Пауліна, сёньня вія дэль Бабуіно. У 1580 г. каля калегіі пачата будову царквы сьв. Атаназія. Пабудавана яна ў стылі рэнэсансу і доўгі час ў ёй нічога не нагадвала царквы ўсходняга абраду акрамя дзеравяннага іконастасу. Да таго ўсходнім быў толькі галоўны аўтар, а чатыры бочныя аўтары былі лацінскія. Толькі ў часе рамонту ў 1869 г. былі выкінены лацінскія аўтары і на мейсца дзеравяннага быў пастаўлены каменны іконастас.

Кіраўніцтва калігаяй спачатку было ў руках кард. Санта Сэвінэ, аднаго з чатырох пратэктараў калегіі, але гэтае кіраўніцтва ня было поўнасцю здавальняючым, дзеля гэтага ў 1591 г. астаўляючы нагляд таму-ж кардыналу, вядзеньне калегіі даручана айцом езуітам. Пад кіраўніцтвам езуітаў калегія разьвівалася памысна да 1602 г., калі на мейсца памёршага кард. Санта Сэвіна пратэктарат даручана кард. Жюстініяні. Ён адразу распачаў вайну з езуітамі, так што яны былі змушаны ў 1604 г. зрачыся кіраўніцтва, але не на доўга. У 1622 г. папа зноў перадаў кіраўніцтва езуітам і гэтым разам яны асталіся тут да 1773 г., гэта значыць да часу, калі быў скасаваны іхны ордэн. Пасьля езуітаў кіраўніцтва калегіяй перанялі сьвецкія сьвятары. У 1803 г. калегія была зачынена ў сувязі з рэвалюцыйнымі рухамі таго часу і адчынена нанава толькі ў 1845 г. і кіраўніцтва даручана сьвецкім сьвятаром. У 1886 г. кіраўніцтва перанялі айцы рэзурэкцыяністы, але толькі на тры гады, бо ў 1889 г. калегію перадана зноў айцом езуітам. Апошняя зьмена ў кіраўніцтве адбылася ў 1897 г., калі папа Леў XIII правёў радыкальную рэформу калегіі і кіраўніцтва ею перадаў айцом бэнэдыктынцам, якія выконваюць гэты абавязак да сёньня (1).

Трэба зазначыць, што калегія сьв. Атаназія ёсьць найстарэйшай калегіяй усходняга абраду ў Рыме і яна першая павінна была на працягу свае гісторыі разьвязаць шмат цяжкіх пытаньняў. Адным з такіх пытаньняў была справа абраду. Хоць усе студэнты калегіі былі бізантыйскага абраду і былі прызначаны ў будучыні працаваць між насельніцтвам гэтага абраду, аднак у часе студыяў яны ўзгадоўваліся ў лацінскім абрадзе, ці лепш кажучы ў дзіўнай мешаніне лацінскага і бізантыйскага з перавагаю апошняга. Рэктар і ўсе кіраўнікі былі лацінскага абраду. Студэнты былі забавязаны штодзенна прысутнічаць на Службе Божай а. рэктара, нават і тады, калі таго самага дня служылася Служба Божая бізантыйскага абраду, так было штонядзелі і ў кожнае большае сьвята. Каб унемагчыміць пераход у лацінскі абрад, ад студэнтаў вымагалася прысяга, што да канца жыцьця будуць трымацца бізантыйскага абраду і будуць захоўваць яго ў поўнай чысьціні. Потым была дадана яшчэ забарона ўступаць у якія колечы манашыя ордэны акрамя базыльянаў, якія былі бізантыйскага абраду.

Калі папа Грыгоры XVI ў 1845 г. нанава адчыняў калегію, дык хоць часткава палагодзіў абрадовую справу. Ён загадаў, каб штодзенна для студэнтаў адпраўлялася Служба Божая ў бізантыйскім а не лацінскім абрадзе. Аднак поўная абрадавая рэформа была зроблена ў 1897 г. Бэнэдыктынцы, якія тады пераняті кіраўніцтва, усе былі бізантыйскага абраду і трымаліся яго з уласьцівою бэнэдыктынцам дакладнасьцю. Ад таго часу калегія сьв. Атаназія сталася тым мейсцам, дзе бізантыйскі абрад захоўваецца ў поўнай чысьціні.

Прынагадна варта ўспомніць, што з боку папаў калегія была прадметам асаблівае апекі. Яны няраз адведвалі яе асабіста і надавалі ёй розныя прывілеі. Напрыклад папа Сыкст V у 1586 г. даў прывілей, паводля якога на ўсіх урачыстых папскіх Службах функцыі субдыякана і дыякана выконваюць студэнты калегіі сьв. Атаназія. Гэты прывілей захоўваецца да сёньня.

Што да нацыянальнага складу студэнтаў грэцкае калегіі, дык як сам назоў кажа, яна была прызначана для грэкаў. І ў першыя гады свайго існаваньня сапраўды там былі пераважна грэкі перадусім з абтокаў (Хіос, Корфу, Кіпр і інш.) і менш з кантынэнту. Аднак хутка калегія траціць свой выключна грэцкі характар. Ужо на пачатку існаваньня калегіі, была думка пасылаць туды 12 кандыдатаў «рускіх» з тым разьлікам, каб між іх было 6 расейцаў і 6 беларусаў і украінцаў з Рэчыпаспалітае, але знойдзена іх толькі 3 і ў тым толькі аднаго расейца (2).

Пасьля Берасьцейскае Вуніі ў калегіі пачалі сустракацца штораз часьцей «рускія» (3) студэнты. У 1613 г. мітр. Руцкі атрымоўвае ў калегіі 4 сталыя мейсцы для сваіх студэнтаў. Пакольні спачатку Вунія пашыралася на Беларусі і часткава на Валыні, а Львоўская і Пэрэмыская епархіі прыступілі да яе толькі на пачатку XVIII ст., дык «рускія» студэнты з XVII ст. і вялікая колькасьць з XVIII ст. былі пераважна беларусы. Усе яны былі манахі базыльяне. Сьвецкіх сьвятароў было ўсяго некалькі чалавек і іхняя прысутнасьць талеравалася толькі як пераходнае зьявішча, пакуль на Беларусі паўстане свая духоўная сэмінарыя.

Усьлед за беларусамі і украінцамі дзьверы калегіі былі адчынены для італё-грэкаў, а ў 1745 г. для мэльхітаў, якія ў 1724 г. паядналіся з Каталіцкай Царквою.

Такім чынам Калегія сьв. Атаназія з нацыянальнай грэцкай інстытуцыі ператварылася ў шматнацыянальную сэмінарыю бізантыйскага абраду.

Ад 1839 г. ня было ўжо ў калегіі больш беларускіх студэнтаў, як ня было Каталіцкае Царквы ўсх. абраду на Беларусі. Затое было шмат украінцаў з Галіцыі. З новых студэнтаў прыбылі сюды ў 1849 г., румуны. Аднак потым румуны і украінцы атрымалі свае ўласныя калегіі, а ў калегіі сьв. Атаназія асталіся: грэкі, італё-альбанцы, альбанцы і мэльхіты.

Уклад калегіі сьв. Атаназія ў разьвіцьцё грэцкае культуры не зьяўляецца тэмаю гэтага артыкулу, дык яе тут не закранаем, зазначым толькі, што адносна гэтае тэмы Э. Лягран выдаў у 1895 г. спэцыяльны твор з багатай бібліяграфіяй.

**А. Н.**

**(Заканчэньне ў наст. нумары)**

---

3) Placide de Meester OSB, Le College Pontif cal Grec de Rome. Romoe 1910, st. 24.

2) P. Pierling, La Russie et Saint-Siège. Tome 1. 2-me éd. Paris 1906, st. 404.

3) Слова «рускі», палаціне Ruthenus тут ужывалася для азначэньня бізантыйска-славянскага абраду, а беларуская нацыянальнасьць у тым часе азначалася словам «ліцьвін» Lithuanus або Litvanus.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ПРАБЛЕМА ТАЛЕРАНЦЫІ

У некаторых уплывовых каталіцкіх кругох зьвернена асаблівую ўвагу на прамову Сьвяцейшага Айца Пія XII да юрыстаў з 6. XII. 53, дзе падаюцца агульныя нормы для каталіцкае дзяржавы адкосна некаталіцкага грамадзтва. У гэтай прамове Найвышэйшы Сьвятар, апіраючыся на асноўныя вытычныя ў гэтым пытаньні папы Льва XIII, яшчэ пашырае іх і насьвятляе гэтую далікатную праблему талеранцыі адпаведна да сучаснага палажэньня.

## ПАСЛАНЬНЕ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА ДА ХВОРЫХ

У праграме Марыйскага Году дзень 14 лютага быў «Днём хворых». У гэты дзень Сьвяцейшы Айцец Пій XII, сам будучы хворым, зьвярнуўся праз радыё да тых, каго назваў «каштоўнымі каменьнямі Царквы і крыніцаю духовае энэргіі». На пачатку Сьвяцейшы Айцец зьвяртаецца да хворых у поўных любові словах і наступна затрымоўваецца над значэньнем цярпеньня ў людзкім жыцьці. Перадусім ён зьвяртаецца да тых, каму цяжкая хвароба пагражае сьмерцю ў самым росквіце іхняга жыцьця. З іхных вуснаў вырываецца пратэст: Чаму? За якую віну я цярплю? І да іх накіроўвае словы пацехі: «О душа, абнятая страхам, чаму бунтуешся? Дазволь, каб у цемру твайго цярпеньня ўпалі праменьні што прыходзяць ад Хрыстовага Крыжа... Ісус і Ягоная Маці так-жа цярпелі, бязумоўна не за свае правіны, але дабравольна, поўнасьцю падпарадкоўваючыся Божым плянам. Ці ты калі спытаўся: чаму? Магчыма табе здаралася зрабіць штосьці дрэннае. Прыпомні... Ты ведаеш, што цяжкі грэх ёсьць прысудам душы на вечныя мукі... Таму, калі Госпад карае цябе за твае правіны, ты не павінен наракаць і працівіцца; ты не зьяўляешся нявольнікам, якога карае люты валадар, але сынам Бога Айца, Які ня хоча помставаць, але толькі паправіць цябе і жадае, каб ты сказаў: «Я зрабіў дрэнна», каб пасьля гэтага даць табе прабачэньне і вярнуць жыцьцё тваёй душы».

«Калі-ж ты не зрабіў нічога дрэннага... то таксама ты не павінен бунтавацца. Сапраўды немагчыма вытлумачыць усе хваробы і людзкія няшчасьці, як кару за правіны. Ці памятаеш, што напісана ў сьв. Эвангельлі? Аднойчы Ісус спаткаў сьляпога ад нараджэньня і на запытаньне вучняў, ці гэта ён, ці ягоныя бацькі зграшылі, адказаў: «Не зграшыў ні ён, ні ягоныя бацькі, але гэта дзеля таго, каб выявіліся на ім дзелы Божыя (Ів. IX, 3). Каб ня мучыць цябе доўгімі разважаньнямі, глянь: вось непарочная і сьвятая Маці трымае на сваім лоне акрываўленае цела свайго боскага Сына. Можа думаеш, што Дзева, перапоўненая болем, наракае на Бога? Можа яна пытаецца Яго: чаму толькі цярпеньняў? Мы ня мелі-б адкупленьня, калі-б гэтая Маці ня бачыла свайго Сына, паміраючага ў муках і ня было-б для нас магчымасьці збаўленьня».

Але ня ўсе хворыя бунтуюцца супраць цярпеньняў. Дзякаваць Богу, ёсьць душы пакорныя волі Божай; ёсьць душы сьветлыя і радасныя, а нават такія, што самі шукаюць цярпеньняў. Бо ў сьвятле веры нашыя цярпеньні набіраюць зусім іншага выгляду. Вера ня толькі асалоджвае наш боль, але таксама паказвае, як нашыя хваробы і цярпеньні могуць служыць да асягненьня высокіх мэтаў і дзеля гэтага мы іх павінны прыняць радасна, а часам нават і жадаць іх.

«Вось гэты чалавек мае штам грахоў да адпакутаваньня... цярпеньне яго ачысьціць. Гэтая маладая жанчына... ня мела дастакова сільнага характару, партрэбнага для тае, што павінна стацца жонкай і маткай; цярпеньне, як агонь, яе загартавала і дало ёй вялікую сілу. Магчыма ты жадаў мучаніцтва; можа ты сьніў, што і табе здарыцца нагода цярпець за Ісуса, за Божую славу; гэтая твая хвароба цела ёсьць быццам праліцьцём крыві, яна ёсьць сапраўднай формай мучаніцтва. Ты

зноў магчыма жадаў стацца падобным ува ўсім Ісусу? У хваробе можаш знайсьці свой крыж... Колькі з вас, любыя сыны, хацела-б памагчы Ісусу ў збаўленьні душаў! Ахвяруйце-ж Яму вашыя цярпеньні, на інтэнцыі, на якія Ён бесперарыўна прыносіць Сябе ў ахвяры на аўтары. Вашая маленькая ахвяра, злучаная з ахвярай Ісуса, дапаможа шматлікім грэшнікам вярнуцца да Айца, шматлікім няверным знайсьці сапраўрную веру...»

«У той дзень, калі ў небе будзе адчынена тайна Божага Правіду ў эканоміі збаўленьня, вы ўбачыце, што сьвет здаровых будзе ў вялікім даўгу перад вамі...»

## СЬВЯТА БОГАЯЎЛЕНЬНЯ Ў РЫМЕ

Вечны горад мае сваю асаблівую ўрачыстасьць, зьвязаную з Богаяўленьнем. У 1838 г. багаславёны Вінцэсь Палётті, заснавальнік чыну айцоў Палётынаў, запачаткаваў актаву (васьміднёўе) малітваў у чэсьць Хрыста Адкупіцеля. Ад таго часу кожны год на Богаяўленьне ў царкве аўцоў Палётынаў сьв. Андрэя дэльля Вальле адбываюцца традыцыйныя багаслужэньні. На гэты час у царкве за аўтаром устанаўляецца прыгожая панарама, якая паказвае сцэну пакланеньня трох мудрацоў з Усходу Нованароджанаму Хрысту. Перад аўтаром штодзенна адпраўляюцца Службы Божыя ў розных абрадах, а з амбону разлягнюцца казаньні ў розных мовах. Такім чынам наглядна паказваецца, як побач з трымя мудрацамі даюць хвалу Збавіцелю ўсе народы сьвету. Сёлета ў апошні дзень актавы правілася Служба Божая ў бізантыйскім абрадзе пагрэцку. На багаслужэньні было шмат вернікаў і многія з іх прычашчаліся.

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВАЎ ЗА ЗЛУЧЭНЬНЕ ЦЭРКВАЎ

Сёлета хрысціянскі сьвет перaважывае вельмі сумныя ўгодкі — 900 годзьдзе падзелу Цэркваў. За гэты доўгі час разьеднаньня некаторыя перашкоды да злучэньня Цэркваў ужо даўно адпалі, але некаторыя яшчэ асталіся і да іх далучыліся новыя. Але за той час жаданьне злучэньня Цэркваў пашыраецца штораз больш і для выпрашэньня ў Бога вялікае ласкі злучэньня Цэркваў ад 1909 г. штогод адбываюцца між 18-25 студзеня ува ўсім каталіцкім, а ад некатарага часу часткава ў праваслаўным і пратэстанцкім сьвеце Тыдзень Малітваў. Сёлета гэты Тыдзень азначана публічнымі багаслужэньнямі і прыватнымі малітвамі.

## СПРАВА СЬВЯТАРОЎ-РАБОТНІКАЎ

Зьмена статуту сьвятароў-работнікаў у Францыі (аб чым успаміналася ў папярэднім нумары часапісу) і самое пераіменаваньне іх на сьвятароў работніцкае місіі, выклікала шырокі розгалас у сьвеце. Зацікаўленьне гэтаю справаю асабліва ўзрасло ад часу, калі самыя сьвятары-работнікі запратэставалі супраць зьменаў і тым самым далі матэрыял для розных сэнсацыйных вестак. У сапраўднасьці аднак дагэтулешні іхны статут быў толькі тымчасовы, прызначаны на час пробы і новыя зьмены маюць на ўвеце перадусім найважнейшую мэту іхняе місіі — душпастырскую працу між работнікамі, гэта значыць тую, дзе ніхто іншы сьвятароў замяніць ня можа і дзе да гэтага часу праца была занядбаная. Таму ў новым статуце абмежавана час працы сьвятароў у фабрыках да мінімум, але збольшана вымогі духовага жыцьця і асьветы, каб яны былі ў стане даць вычэрпваючыя выясьненьні работнікам на багаслоўскія, сацыяльныя, эканамічныя і іншыя цікавячыя іх пытаньні. У зьвязку з гэтым адклікана сьвятароў з фабрыкаў і плянуецца адпаведная рэформа сэмінарыяў, дзе калісь узгадоўваліся сьвятары-робoтнікі.

## СЬЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ЦУДА Ў ЛЮРД

Летась 8 кастрычніка Бюро Мэдычных Сьцьверджаньняў у Люрд паведаміла духоўныя ўлады аб канчатковым выніку сваіх досьледаў адносна аздараўленьня палкоўніка Тэлегрэна, якое сталася 3 кастрычніка 1950 г. Палкоўнік Тэлегрэн пасьля аднае апэрацыі меў гнойную фістулу, якая не паддавалася ніякім лячэньням. Карыстаючы з паломніцтва хворых у Люрд, ён прыехаў ў «горад Марыі» і там пасьля двох купеляў у басэйне пры Люрдзкай пячоры фістула адразу зьнікла і больш не зьяўлялася. Лекарская камісія на працягу двох гадоў некалькі раз аглядала палкоўніка Тэлегрэн і сьцьвердзіла поўнае аздараўленьне, заяўляючы ўканцы, што «яны ня могуць даць мэдачнага выясьненьня для гэтага аздараўленьня». Апіраючыся на гэтае асьведчаньне духоўныя ўлады 7 сьнежня 1953 г. сьцьвердзілі, што тое аздараўленьне ня можа быць іншым як цудоўным.

## МІЖНАРОДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ КАТАЛІЦКАЕ ТЭЛЕВІЗІІ

Апошнім часам разьвіцьцё тэлевізіі йдзе ўпярод хуткімі крокамі і, як часта бывае ў падобных выпадках,разам з дабрадзействам прыносіць і шкоду, бо побач добрых і прыгожых праграмаў трапляюцца і дрэнныя сцэны. На небясьпеку пустых і немаральных праграмаў тэлевізіі ўжо зьвяртаў увагу Сьвяйцейшы Айцец Пій XII у лісьце да італьянскіх біскупаў з 3-га студзеня г. г. А каб канкрэтна супрацьдзеяць шкоднаму ўплыву, прадстаўнікі каталіцкіх тэлівізійных арганізацыяў мелі сёлета ў Парыжу між 31 студзеня і 6 лютага міжнародны тыдзень каталіцкіх студыяў тэлевізіі, дзе парушана шмат актуальных пытаньняў і асабліва зьвернена ўвагу на вымену дасьведчаньняў у дабіраньню праграмы. Удзельнічала ў канфэрэнцыі 14 народаў.

## МІЖ «ПРАВАСЛАЎНЫХ» ЕРАРХАЎ ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ

У мінулым годзе савецкія «праваслаўныя» ерархі ў Чэхаславаччыне хіратанізавалі сабе да

помачы ўжо шостага з чаргі япіскапа Мефодзія (Міхаіла Мілага) на яп. Трэбішэўскага. Амаль адначасна Оломуцкі яп. Чэсьцімір папрасіўся на пакой з «прычыны цяжкое хваробы».

### ЗБОЛЬШАНЬНЕ «ПРАВАСЛАЎНЫХ» ЕРАРХАЎ У СССР

Жыцьцё «Расейскае Праваслаўнае Царквы» ў СССР уканцы 1953 г. азначылася раптоўным збольшаньнем «ерархаў». Уканцы 1952 г. іхны лік быў спаў да 62 чалавек, да таго на працягу 1953 г. двох памерла, але затое пачынаючы ад палавіны году і перадусім у сьнежні хіратанізавана 8 чалавек для СССР і аднаго для Бэрліну, як вікарага для Бэрлінскага экзарха савецкага патрыярха.

### ПА ЗАГАДУ ТІТО

У Югаславіі супрацькаталіцкі наступ трывае далей, прымачы штораз новыя формы. Нядаўна там паклікана на вайсковую службу двох біскупаў: Я. Э. Францішка Франіча з Спліту і Я. Э. Язэпа Паўлішыца з Сэньі — яны абодва мусяць служыць як звычайныя жаўнеры ў г. Сэзане. Адначасна з біскупамі паклікана ў войска частку маладых сьвятароў, у выніку чаго шматлікія парахвіі пустуюць.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

### Рэстаўрацыя полацкіх сьвятыняў

Як паведамляе «Звязда» з 26. XII. 1953 г. у Полацку адрэстаўрована Сафійскі сабор, што быў пабудаваны ў XI ст. і Спаскую Сьвята-Еўфрасініскую царкву з XII ст., але нічога ня кажацца аб тым, ці тыя сьвятыні адчынены для багаслужэньня. У той-жа зецемцы кажацца, што адначасна «праведзены работы па азеляненьню землянога вала, які быў пабудаваны ў заходняй часьці гораду па загаду Івана Грознага». Значыць адначасна аднаўляецца і памяць аб тым грозным цару, што калісь заняўшы на нейкі час Полацк, загадаў масава тапіць у Заходняй Дзвіне мяйсцовае жыдоўскае і беларускае насельніцтва, а потым вывез з Полацку 300 вазоў розных скарбаў, пераважна з цэркваў і манастыроў.

### Новая тактыка бязбожнае дзейнасьці

Уканцы мінулага году 19 і 20 сьнежня адбыўся ў Менску другі Зьезд «Таварыства па пашырэньню палітычных і навуковых ведаў Беларускае ССР». Гэта арганізацыя, якая мае замяняць калішні «Саюз ваюючых бязбожнікаў», але вось годны ўвагі факт: на зьездзе аб антырэлігійнай дзейнасьці гаварылася вельмі мала. Толькі адзін дэлегат.сьцьвердзіў, што Таварыства займаецца мала антырэлігійнай прапагандай, а сам старшыня і больш адказныя кіраўнікі, пераважна акадэмікі, абыходзілі гэтую тэму моўчанкаю. Відавочна цяпер бальшавікі ў бязбожнай прапаганьдзе пачынаюць трымацца мэтаду поўнае ляіцызацыі, унікаючы ўсякіх успамінаў аб Богу, як-бы Яго зусім ня было.

### Беларускае школьніцтва ў Беласточчыне

На беларускіх землях на захад ад лініі Курзона, якія 16. VIII. 1946 г. бальшавікі перадалі Польскай народнай рэспубліцы, спачатку ўсякія праявы беларускасьці былі сурова забаронены, але ад пару гадоў дазволена адчыняць у вёсках з суцэльным беларускім насельніцтвам беларускія школы і ў мінулым годзе ўжо там існавала тры беларускія гімназіі і больш 30 пачатковых школаў.

### Скасаваньне пяці вобласьцяў

Пераарганізацыя адміністрацыйнага апарату на абшарах БССР ідзе далей поўным ходам. З ліку калішніх 26 міністэрстваў да канца 1953 г. асталося толькі 20, а цяпер пачалася ператасоўка ў вобласьцях. Як паведамляе «Звязда» з 12. 1. 1954 Нр. 9, скасавана 8-га студзеня адразу пяць вобласьцяў: Баранавіцкую, Бабруйскую, Пінскую, Палескую і Полацкую з тым, што абшар Пінскае воб. далучана да Берасьцейскае, Палескае — да Гомельскае, а іншыя падзелена між суседніх вобласьцяў. Гэткім чынам цяпер БССР мае толькі 7 вобласьцяў. Ніякіх камэнтароў да таго паведамленьня не падана, як і не падана матыву гэтых пераменаў.

### Маюць вока на эміграцыю

У апошнім нумары нашага часапісу зьвярталася ўвагу на нябывалае да гэтага часу загульваньне з беларускім патрыятызмам менскага архіяп. Пітірыма падчас хіратоніі менскага вікарнага япіскапа 5 чэрвеня 1953 г. На выясненьне гэтае гульні доўга чакаць ня прышлося. Дня 28 сьнежня 1953 г. расейская просавецкая газэта «Русский голос», што выходзіць у Нью Ёрку падала ў скароце зварот да беларускае эміграцыі арх. Пітірыма, у якім ён выслаўляе Маскоўскую патрыярхію, як адзіна прававерную і заклікае прызнаваць ейных прадстаўнікоў за граніцаю, пры тым нападае на БАПЦ, бо яе быццам стварылі каталікі. Пасьля гэтага вылічае розныя «дабрадзействы» Маскоўскае патрыярхіі для беларусаў на бацькаўшчыне і тут у сваёй хлусьні Пітірым даходзіць да вяршка бязьлічнасьці, кажучы, калі хто ня верыць ягоным словам, дык хай прыйдзе на мейсца і пераканаецца. Былі ўжо ня раз такія наіўныя, што верылі словам савецкае прапаганды і хадзілі туды, але па іх і сьляды гінулі. як у воўчай яме. У 1946 г. паехалі дабравольна ў

СССР арх. Даніїл (Юзьвюк) і арх. Антоні (Марцэнко) — але што з імі сталася, Пітірым ня кажа, бо арх. Даніїла арыштавана ў Пінску ў 1950 г., а арх. Антонія ў Туле ў 1951 г. Вымоўным ёсьць так-жа факт, што зварот да беларусаў апубліканы ў расейскай газэце і ў расейскай мове — тут выяўляецца да якое ступені маскоўскія акупанты могуць зьдзекавацца над нацыянальнымі пачуцьцямі іншых народаў і кампраматаваць іх. Але няма дзіву, што Пітірым можа выдаваць такія заклікі, не дарма яму ў 1946 г. бальшавікі далі мэдаль «За доблестный труд во время отечественной войны».

## АРГЭНТЫНА

### Навагодні вечар

Супольныя калядныя і навагоднія вечары беларусаў з Буэнос Айрэс і ваколіцы ўжо ўвайшлі ў традыцыю. Дык і сёлета, падобна як у папярэднія гады з ініцыятывы Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне адбылося дня 9 студзеня супольная Вячэра ў Летувіскім Клюбе. На сцэне была сьвяточна прыбраная ялінка, а за шчодра накрытым вялікім сталом сабраліся шматлікія ўдзельнікі вечару. Прывітаў іх старшыня ЗБА В. Казлоўскі. Наступна пасьля адсьпяваньня «Пагоні» прамаўляў К. Мерляк, зьвяртаючы ўвагу на захаваньне беларускіх сьвяточных традыцыяў. Як ягоная прамова была на мейсцы відаць ужо з таго, што нават гэты вечар, які меў быць Калядным, пачаўся не малітвай, але песьняй «Пагоні», а скончыўся як звычайная вечарніца — патанцулькай. Але прысутнасьць дзеда Мароза і ягоны экзамэн дзяцей, ці яны ўмеюць маліцца, ці хаця навучыліся хрысьціцца, было адначасна вельмі добрым экзамінам і для бацькоў. Было-б шмат мілей, каб Вечар быў і названы адпаведна да свайго зьместу і праграмы.

## БЭЛЬГІЯ

### Вакол каляднае ялінкі

Ад калі Беларускі Студэнцкі Дом заіснаваў у Лювэне, сьвята Нараджэньня Хрыста сустракаецца з усімі тымі абрадамі, на якія пазваляюць эміграцыйныя абставіны. Але сёлета калядны Сьвяты Вечар закасаваў урачыстасьці з папярэдніх гадоў. Перш была адпраўлена Вячэрня. Наступна ў Студэнцкім Доме каля сьвяточна прыбранае ялінкі сабраліся і студэнты і госьці за шчодра накрытымі сталамі з традыцыйнымі каляднымі стравамі і куцёю. Яшчэ канчалі есьць куцю, як на салі зьявіўся дзед мароз; пачаліся дэклямацыі, сьпевы калядкаў. Прасьпявалі амаль усе калядныя песьні, што ёсьць у малітаўніку «Голас душы» і здавалася, што яшчэ было мала. Вечар прайшоў сапраўды пасьвяточнаму і вытварыў такую прыязную атмасфэру, што ўдзельнікі доўга не маглі разыйсьціся.

## ВАТЫКАН

### Пабольшаньне радыёперадачаў

Ватыканскае радыё сёлета пабольшыла беларускую праграму ў сваіх перадачах. Цяпер беларускія радыёперадачы адбываюцца двойчы ў тыдзень: у сераду і пятніцу пачынаючы ад гадз. 18,15 на кароткіх хвалях: 25,67; 31,10; 41,21; 49,75 мэтраў і на сярэдняй хвалі 196 м.

## З.Ш.А.

### З жыцьця арганізацыяў і інстытуцыяў

● Беларусы з Нью Ёрку праводзілі Стары год і **сустракалі Новы год** на супольнай бяседзе ў Прэм'ер Палацу ў шчырай сяброўскай атмасфэры.

● Адзьдзел **БАЗА ў Спрынгфільдзе** распачаў свае большыя імпрэзы наладжаньнем дзіцячае ялінкі 17 студзеня — яна прынесла шмат радасьці і дзецям і старэйшым.

● Найбольшая беларуская арганізацыя ў З.Ш.А. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне сёлета 20 і 21 лютага мела свой **пяты Кангрэс.** Парадак дня быў багаты і праца Кангрэсу прайходзіла жыва і цікава. У склад новае ўправы выбрана: старшыня — М. Тулейка, першы заступнік — прадстаўнік з Кліўленду, другі заступнік — М. Міцкевіч, сакратары — П. Мяскі і Іна Рыттар, скарбнік — А. Протас.

● У **Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва** 27 лютага праф. Л. Акіншэвіч прачытаў рэфэрат на тэму: «Цывілізацыйныя асновы беларускага гістарычнага працэсу».

## ФРАНЦЫЯ

### Агульны Сход АБРФ

Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі мела сёлета 14 лютага ўжо 9-ы агульны сход. Адбыўся ён й салі Хрысціянскага Сындыкату ў Парыжу. Гэнэральны сакратар М. Наумовіч адкрыў сход прывітаньнем прысутных і ўшанаваньнем памяці першага гэнэральнага сакратара. Наступна пасьля выбару прэзыдыі сходу, ён-жа зрабіў справаздачу з дзейнасьці галоўнае ўправы АБРФ за мінулы год. Справаздачу з філіі Ля Крэзо прачытаў З. Пузоўскі, а аб цяжкасьцях у працы філіі Норд сказаў дэлегат філіі У. Каштэлян. Іхныя справаздачы дапоўніў старшыня Рэвізійнае Камісіі. Пасьля чаго выбрана новую ўправу ў такім складзе: гэнэральны сакратар — М. Наумовіч, заступнік гэн. сакр. і скарбнік — В. Міцкевіч, тэхнічны сакратар — М. Лысуха, сябры ўправы — С. Дударэвіч і В. Дубойскі. У плянаваньні працы на будучыню, зьвернена ўвагу на сындыкальны рух і нацыянальна-культурнае ўзгадаваньне, а так-жа актывізацыю сяброў. Уканцы а. Леў паінфармаваў аб навейшых падзеях на бацькаўшчыне.

---

## ПОШУКІ

Сына Уладзімера **Мандрыка** нар. 27. 4. 1923 у в. Асьцевічах, шукае Мандрык Хведар. Да 1947 г. Уладзімер служыў у Нямеччыне ў г. Мэкленбургу. Хто можа даць аб ім якія весткі, просіцца пісаць на адрас рэдакцыі.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## ЯШЧЭ ЗАМАЛА

У мінулым годзе ў Лёндане высьвятляўся ў некалькі кінотэатрах фільм «Кво вадіс». На адным з сэансаў падчас сцэны, калі львы на арэне разьдзіралі хрысьціян, адзін з глядзельнікаў, пажылы ўжо чалавек, выйшаў з абурэньнем з салі і энэргічна дапытваўся дырэктара кіно. Калі той зьявіўся, дык глядзельнік накінуўся на яго:

— Як гэта магчыма, каб у нашай хрысьціянскай дзяржаве высьвятляць фільм, дзе львы так жарстока разьдзіраюць хрысьціян?!...

— Перш чым адказаць вам на пытаньне — перапыніў яго спакойна дырэктар — пазвольце спытаць вашу прафэсію.

— Я настаяцель аднае прэсбітэрыянскае парахвіі ў Лёндане.

— Дык паважаны пастар, вы ня маеце чаго непакоіцца, бо львы разьдзіраюць на арэне каталікаў.

— А, ну як гэдак, то дорба — адказаў спакойным голасам прэсбітэрыянскі пастар і пайшоў у салю далей глядзець фільм.

Пасьля сканчэньня сэансу той пастар зноў дапытваўся дырэктара і гэтым разам казаў:

— Дзякую вам за сэанс. Фільм быў добры, толькі я заўважыў, што ў адным кутку сядзеў леў, які нічога не робіць.

Відавочна ён шкадаваў, што львы замала яшчэ разьдзіраюць каталікаў. Бяда сьвету, што такі дух «братняе любові» шырыцца не ад цяпер па сьвеце.

## ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ ПОСТУ І АШЧАДНАСЬЦІ ДЛЯ ПАДРЫХТОЎКІ МУЧАНІКА

У 1923 г. ў горадзе Кляйд (З.Д.А.) умірала маці сям'і Гавлік. Перад сьмерцю яна паклікала да сябе ўсіх сваіх 13 дзяцей і абвесьціла ім, што на працягу доўгіх гадоў яна зьбірала па цэнту, каб назьбіраць суму грошаў патрэбную для падрыхтоўкі аднаго сьвятара і гэтыя грошы казала перадаць у адпаведныя рукі. Па сьмерці маці сям'я перадала грошы ў найбліжэйшы бэнэдыктынскі манастыр, які ў сваю чаргу пераслаў іх у нямецка-мадзярскую калегію ў Рыме.

Аднаго дня дачка памёршае Аліцыя Гавлік атрымала ад віцэрэктара калегіі а. Ранх ліст, у якім гаварылася, што грошы прызначаныя на стыпэндыю празнана быўшаму афіцэру а цяпер сэмінарысту Алёізу Стэпіначу. Пры гэтым у лісьце гаварылася, што маці афіцэра Стэпінача на працягу трыццаці гадоў пасьціла тры дні штотыдня, каб вымаліць для свайго сына ласку сьвятарскага пакліканьня. Ліст канчаўся словамі: «Сэмінарыст Стэпінач дзякуе вам за помач. Ягоны выпадак сапраўды нязвычайны. Ёсьць усе азнакі на тое, што ён будзе выдатным сьвятаром і Вам прынясе гонар».

І не памыліўся а. Ранх. У 1937 г. Я. Э. Стэпінач стаўся прымасам Югаславіі. За сваю жывую дзейнасць ў 1946 г. быў засуджаны камуністамі на 13 гадоў зьняволеньня, а ў 1953 г. Сьвяцейшы Айцец зьняволенага ерарха паднёс да годнасьці кардынала.

**Паводля «Болетіно Франчэскано».**

## ШЧЫРАЕ ЗАДОСЫЦЬУЧЫНЕНЬНЕ

Калі ў 1931 г. у Гішпаніі лютавалі камуністы, газэты часта апісвалі жудасныя сцэны рэлігійнага прасьледаваньня. Кожны тыя весткі ўспрыймаў на свой лад. У адным рымскім салёне сабраныя госьці ўважна слухалі, як гаспадар дому чытаў услух сьвежую газэту з весткамі аб паганьбленьні статуі Маці Божае ў Сэвільлі, якое мела мейсца дня 11-га траўня. Усе прысутныя ў салёне з абурэньнем абгаворвалі гэтую падзею і не заўважылі, як маленькая дачка гаспадара выбегла з салёну, увайшла ў свой пакойчык, кінулася да абраза Маці Божае, што вісеў над яе ложкам, і пачала яго горача цалаваць. Потым яна ўзяла гэты абразок, прынесла ў салён і, ня кажучы ні слова, падносіла яго да пацалунку ўсім прысутным. Гэты ўчынак быў дзіцяча просты, але бесканечна шчыры і ўзрушыў глыбока ўсіх. Ён сьведчыць, як глыбока ў людзкой натуры ёсьць зразуменьне задосыцьучыненьня за абразу Бога і Ягоных сьвятых.

**Паводля «Осэрваторэ Романо» 29. 5. 1931.**

## ДАРОГА ДА СЬВЯТЛА

У адным горадзе можна было штодзенна бачыць, як якісьці сьляпы акуратна прыходзіў у царкву на Службу Божую у суправадзе юнака. Аднойчы яго хтосьці па дарозе спытаў, чаму ён не сядзіць дома прынамся ў часе дрэннага надвор'я. Сьляпы адказаў: «Перш яшчэ, калі сьвяцілі мае вочы і калі я сам мог знайсьці дарогу ў сьвятыню, я туды не хадзіў. Але сталася няшчасьце і за грахі гэтага сьвету я асьлёп. Тады на шчасьце адчыніліся мне духовыя вочы на рэчы з іншага сьвету і яны цяпер сталіся маім сьветам і маім суцяшэньнем, дык цяпер я стараюся надрабіць тое, што перш змарнаваў».

## З РОДУ МУЧАНІКАЎ

Падчас першае хвалі супрацькаталіцкага прасьледаваньня ў Японіі сям'я Кокоморі ў Нагасакі выдала двох мучанікаў за веру. У мінулым годзе адзін з далёкіх патомкаў мучанікаў Язэп Кокоморі, атрымаўшы духоўную асьвету ў Японіі і Гішпаніі, атрымаў сьвятарскія сьвячаньні. На крыві мучанікаў вера заўсёды расьцьвітае прыгожым цьветам.

# ЗЬМЕСТ